# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ

№4
1925




Орган ЦК ЛКСМБ і Наркомасьветы БССР.

## Зьмест.





Зьмена зьмену рыхтуе сабе:
Піонэр—комсамол—К. П. Б.

Да змаганьня за справу
працоўных, будзь гатоў!




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ
БССР

РЭДАКЦЫЯ:
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы

№ 4. САКАВІК 1925 г.



# Грамадзянская карысьць нашай працы.

Наша піонэрская організацыя нарадзілася пасьля сьмерці Леніна. Мы былі выкліканы на сьвет самім жыцьцём, каб замяніць вялікага правадыра працоўных.

Мы ўзялі на сябе гэта пачэснае і дарагое імя—ленінцы. Так, мы—ленінцы. А калі гэтак, мы павінны жыць і будаваць жыцьцё так, як вучыў Ленін.

Наш час—час барацьбы і будаваньня новага ўкладу жыцьця. Да гэтага юныя ленінцы заўсёды павінны быць гатовымі. Ленін ніколі не клапаціўся аб сабе; усе яго клопаты былі аб бедным народзе, аб вызваленьні. Мы, ленінцы, таксама ўзялі гэтую аснаўную адзнаку ленінца ад свайго паважанага дзядулі. Мы ставім вышэй за ўсё—гэта працу на карысьць беднага працоўнага народу. У гэтай працы мы ўжо шмат чаго зрабілі, хоць маладыя. Але, зразумела, усё яшчэ на перадзе, мы яшчэ зусім маладыя.

Наша праца для другіх (скажам у вёсцы дапамагчы беднай удаве, прачытаць сялянам газэту і г. д.) паказвае рабочым і сялянам, што мы ідзём сапраўдным Ленінскім шляхам.

У вёсцы асабліва адчуваецца цяпер патрэба ў сталых, вытрыманых грамадзянскіх працаўнікох. Да йначай і нельга. Ідзе перабудова жыцьця. Піонэрская організацыя на вёсцы яшчэ ня вырасла да патрэбнага ліку. Комсамольскіх і партыйных ячэек у вёсках таксама ня дужа многа. А бяз партыйцаў, комсамольцаў і піонэраў вёска трымацца на новым шляху ня зможа. Вёска яшчэ цёмная і любы поп, кулак можа зьбіць яе з дарогі. Наша задача—узмацоўваць свае організацыі ў вёсках пашыраць іх.

Другая ня менш важная задача—гэта весьці агульную лінію партыі і комсамолу, дапамагаць ім замацоўваць сувязь гораду з вёскай.

Наогул куды не паглядзі грамадзянскай працы непачаты кут. Усё праца неадкладная і ўсё праца, якая патрабуе сваіх працаўнікоў. Зразумела, што піонэрам у гэтай працы належыць вялікае месца. Ня трэба хватацца толькі за вялікае зразу. Трэба умець самым маленькім тварыць карысную для ўсіх справу. У гэтым увесь сэнс нашай працы, як працы юных ленінцаў.

А Чурылавец.

# Праца вяськовага атраду ўвесну.

Праца нашай піонэрскай організацыі будуецца па так званым „этапам“, гэта значыць, прыстасоўваецца да ўмоў пэрыоду—часу году.

Узімку мы ўсю нашу працу галоўным чынам праводзілі ў школе, клюбе. З наступам веснавога пэрыоду, зьмяняюцца ўмовы працы. З гэтага часу праца пераносіцца на вольнае паветра.

Вось асноўныя моманты нашай працы на веснавы пэрыод.

## Сельска-гаспадарчая пропаганда.

Партыя й Комсамол у працы на вёсцы вялікую ўвагу зварачваюць на падняцьце сельскае гаспадаркі, на палепшаньне форм і спосабаў апрацоўкі зямлі.

Мы ведаем, што малы ўраджай, недароды шмат залежаць ад таго, што мы яшчэ нашу зямлю апрацоўваем старымі дзедаўскімі спосабамі.

Навука, якая займаецца пытаньнямі сельскай гаспадаркі, шмат чаго зрабіла ў адносінах палепшаньня яе.

Піонэрскі адрад на гэту галіну сваёй працы павінен зьвярнуць вялікую увагу.

Задачы партыі і Комсамолу па падняцьцю сельскае гаспадаркі зьяўляюцца задачамі й піонэраў.

У вёсцы маюцца культурныя гаспадаркі. Можна даручаць зьвеньням працу па высьвятленьню становішча такое гаспадаркі. Зварачаецца ўвага на формы палепшаньня гаспадаркі й якім чынам гэтыя формы праводзяцца.

Зьвяно йдзе туды, прыглядваецца, даведваецца аб усім, а потым робіць справаздачу ў атрадзе аб сваёй працы.

Апрачага гэтага, можна пасылаць зьвеньня ў звычайныя гаспадаркі. Гэта дасьць магчымасьць зрабіць параўнаньне, якое пакажа наколькі культурна-паказальная гаспадарка зашла наперад, дасягнула большых вынікаў і якім шляхам.

Калі недалёка маецца агрономічны пункт, можна атраду зрабіць туды экскурсію. Экскурсанты даведаюцца, як аграномы апрацоўваюць зямлю па новаму, а потым дома раскажуць, што бачылі й аб чым даведваліся на агропункце.

## Скарыстаньне агронома.

Калі ёсьць магчымасьць, неабходна скарыстаць агронома, прыцягнуць яго да працы.

У атрадзе агрaном можа правесьці гутарку па намечаных мерапрыемствах у справе падняцьця сельскае гаспадаркі, даць матар'ял для павадыра,



На Экскурсіі.

каб ён потым мог сам правесьці гутарку ў атрадзе па пытаньню сельскае гаспадаркі.

Практычная праца ў атрадзе па сельска-гаспадарчай пропагандзе пачынаецца не адразу. Перш за ўсё праводзіцца некаторая падрыхтоўчая праца. Трэба добра самому даведацца аб становішчы нашай сельскай гаспадаркі, прычынах яе заняпаду, якія мерапрыемствы намячаюцца зараз да яе палепшаньня.

## Сельска-гаспадарчы гурток ячэйкі Комсамолу.

Усю сваю працу па агропропагандзе неабходна весьці ў сувязі з сельска-гаспадарчым гур-

тком Комсамольскай ячэйкі. Як гэта зрабіць? Можна пасылаць асобныя звеньня атраду на заняткі сельска-гаспадарчага гуртка Комсамолу. У атрадзе звеньня раскажуць аб усім тым, чым займаўся гурток.

У ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзіць ячэйка, атрад таксама прымае ўдзел, праводзіць частку агульнай працы. Наогул, сельска-гаспадарчая пропаганда атрадам не праводзіцца асобна, а зьяўляецца часткай агульнай працы, як комсамольскай ячэйкі, так і школы. Атрад толькі ймкнецца да ўсёй гэтай працы прывабіць усіх вучняў школы.

Апрача ўсёй гэтай працы, неабходна уразумець піонэрам карысьць птушак у сельскай гаспадарцы і якіх. Піонэры тагды ня будуць займацца разбурэньнем увесну гнёздаў птушак, што вельмі часта наглядаецца.

## Паказальны агарод.

Апрача замалёвак і розных лёзунгаў, якія зьмяшчаюцца ў зьвеньнявых кутках, як вынік працы па сельска-гаспадарчай пропагандзе, трэба яшчэ добра абсталяваць свой паказальны агарод. Праца гэта праводзіцца сумесна з школай.

З адчыненьнем працы на полі атрад павінен заняцца і гэтай працай.

Трэба умовіцца з сельсаветам заранеі аб тым, каб пры школе адвесьці кусок зямлі, умовіцца з настаўнікам і сумесна з ім праводзіць усю гэту працу.

Калі агарод мы называем паказальным, неабходна каб ён адпавядаў сваёй назьве, і мог-бы служыць прыкладам для сялян.

Усе агрономічныя веды, якія ўжо маюцца ў сяброў, неабходна прыстасаваць да працы ў агародзе. Сюды ўваходзяць: палепшаньне апрацоўкі зямлі, разьвядзеньне рознага рода сямян, якія-б потым маглі распаўсюджвацца па ўсёй вёсцы.

Да працы ў агародзе ўцягваюцца ўсе школьнікі.

Праца атраду праводзіцца зьвеньнямі. Пры неабходнасьці-ж можа прымаць удзел у працы і ўвесь атрад, як, напрыклад, полка дзікіх траў, агараджваньне агароду.

## Ленінская дзесяціна.

Амаль што не ва ўсіх вёсках комітэт грамадзянскай узаемадапамогі наладжвае заворку Ленінскай дзесяціны. Піонэрскі атрад у гэтай працы прымае удзел. Ён дапамагае комсамольцам раскідаць гной, стараецца прыстасаваць да гэтае працы агрономічныя веды.

## Сельска-гаспадарчая пропаганда дома.

Шмат чаго піонэр можа зрабіць у адносінах сельска-гаспадарчай пропаганды дома, у гаспадарцы бацькі. Зразумела, тут, як кажуць, „перавярнуць“ удасца піонэру ня вельмі шмат чаго на новы лад, але зрабіць усё-ж такі можна ня мала ў гэтым баку.

Усе палепшаньні, якія праводзяцца ў паказальным агародзе, піонэр стараецца прыстасаваць да свайго агароду дома. Рознае новае насеньне стараецца разводзіць і ў агародзе бацькі.

## Прыстасаваньне працы.

Мы ўжо гаварылі, што умовы веснавога пэрыоду зусім розняцца ад умоў працы зімовага пэрыоду.

Папершае: неабходна будзе праводзіць зборы і заняткі зьвеньняў на вольным паветры.

Пачатак працы на полі некалькі можа адбіцца на нашай працы ў атрадзе. Кожны піонэр будзе заняты дома ў гаспадарцы бацькоў. Але з гэткага становішча трэба старацца, як-небудзь выйсьці.

Дзеці ў раньнюю вясну будуць у дзень ганяць скаціну на паству. Трэба будзе такія моманты скарыстаць. Дзеці зьбіраюцца разам, каб прачытаць піонэрскую часопісь, альбо наладзіць якую небудзь гутарку. Аднаму хлопцу даручыць нагляданьне за скацінай.

Такія моманты павінны зблізіць дзяцей-піонэраў з усімі іншымі сялянскімі дзецьмі. Трэба растлумачыць ім, хто такія піонэры, якія іх задачы і г. д.

## Компаніі.

Мы ўжо ведаем аб тым, што атрад прымае актыўны ўдзел ва ўсіх компаніях, якія праводзіць партыя і Комсамол.

Вясною будзе праводзіцца „дзень лесу“. Атрад павінен займаць у правядзеньні гэтага дню не апошняе месца. Апрача таго, што піонэры павінны ўразумець значэньне гэтага дню, але й прымаць удзел у практычнай працы, якая будзе праводзіцца ў гэтай компаніі.

Сумесна з школьнікамі неабходна насадзіць дрэвы вакол школы, хаты-чытальні, агарадзіць іх, каб сьвіньні ня псавалі іх і не давалі ім засыхаць.

Вялікае значаньне мае „пасяўная компанія“, якая праводзіцца зараз па ачыстцы насеньня. Піонэры стараюцца артыкулы па ачыстцы насеньня прачытаць дома.

Вясною аб гэтым будзе шмат пісацца ў газэтах.

Апрача гэтага ячэйкай комсамолу сумесна з сельсаветам будзе праводзіцца ачыстка насеньня для Ленінскай дзесяціны. Піонэрскі атрад дапамагае ў гэтай працы.

Піонэры дома стараюцца, каб бацькі праводзілі ачыстку насеньня.

Вось асноўныя задачы працы піонэрскага атраду на веснавы пэрыод. Зразумела, тут мы аб усім не гаварылі. Падрабязгова аб працы вясковага атраду гаворыцца ў пляне працы на веснавы пэрыод, які разасланы ўсім атрадам.

**М. Лабадаеў.**

---

**Піонэр, ты павінен быць сьвядомым грамадзянскім працоўнікам у вёсцы. На кожном кроку сваёй працы помні аб гэтым.**

# Маладыя храсткі.

(апавяданьне)

— Дык у гэтым-жа наша й бяда, што самі нічога ня ведаем і няверым людзям навукі—гаварыў горача з запалам Пятрусь свайму бацьку.

Гэтую думку Пятрусь паўтараў некалькі раз кожны дзень. Ён толькі стараўся з кожным днём удасканальваць гэту думку, расшыфроўваць ясьней яе бацьку. Ад гэтага выходзіла тое, што ў Пятруся пры выказе сваёй думкі мяняліся толькі перастаноўкамі словы. Але ня ў гэтым справа.

Як бы яно там ня было, а з Пятрусём торыю. Ён стараўся ўвесь час гаварыць аб адным, аб жыцьці вёскі. У гэтым Пятруся не саб'еш. Тут Пятрусь выступае настаяшчым агрономам. І выступае ўсюдах, на сходзе сялян, на зборах свайго атраду, у хаце—чытальні. А ў не рабочыя дні Пятруся цэлы дзень трымаюць сяляне ў гутарках.

--- Недарэмна, брат, ты жыў у горадзе,--- толькі і чуў Пятрусь ад старых.

Пятрусь дзесяцігодзнім хлапчуком быў узяты дзядзькам сваім у горад. Дзядзька яго---агроном. І пляменьніка свайго дзядзька



Піонэры Койданаўскага райёну, Менскай акругі.

бацька згаджаецца. Уперад троха крывіўся, спрачаўся. Але стояла Пятрусю сказаць:— так гаворыць дзядзька і настаўнік, як бацька супакойваўся і матаў галавою. Тады стары закурваў сваю доўгую асінавую люльку і спакойна аддаваўся разважаньням.

— Так, цяперашні сьвет за нас хітрэйшы—разважаў стары Антось—недарэмна-ж павыдумлівалі консамолаў піонэраў.

— Гэта ня выдумвалі—падказаў Пятрусь.

— А што-ж гэта было хіба калі?

— Не, гэтага ня было.

Пятрусю было ня цікава залазіць у гісрыхтаваў да агрономічнай справы. Цяпер-жа часова дзядзька паехаў у другі горад давучвацца. А Пятрусь зьвярнуўся ў вёску да сваіх бацькоў. Чатыры гады пражыў Пятрусь у горадзе ў дзядзькі. Хітры разумны, жвавы хлапец Пятрусь. Што толькі надумаў---сьвет гары, а выканае.

Бацька трохі спакойна памаўчаў, падумаў а потым падняў галаву:

--- Яно пэўна ўсё лепш было-бы, каб зрабіць так, як вы кажаце.

— Ха-ха-ха, калі абдумаўся --- дробна зарагатаў Пятрусь.

Для яго ўсё яшчэ былі дзіўнымі бацьў

кавы адносіны да справы, аб якой кожны дзень дзяўбе яму Пятрусь.

Бацька не зьвяртаў увагі на сьмех сына і гаварыў далей:

— Вось хоць-бы ўзяць нашу „Галіцу“— балота не загоніш туды й чорта, гразь, нетра і так цэлы век. Балота пустое, а людзі мучацца. Прыдзецца з шнурка тры посьцілкі травы, дык даложыш тры дні працы. Гэта-ж не хаханкі дастаць з галіцы сена! Людзі тапіліся даўней там. Сарвесься з кладкі і--прапаў.

— А вось ці праўда тата, што, ў „Кавалёвай струзе“ утапіўся каваль?—запытаўся Пятрусь перабіўшы бацьку.

— Няўжо-ж няпраўда. І струга таму „кавалёвай“ завецца.

— Як гэта і калі было, тата?

— Даўно, сынку. Бацька задумаўся, задумаўся так, што не заўважыў, як у яго старога навярнуліся капелькі сьлёз і гатовы былі адарвацца на зямлю. Відаць шмат успамінаў і розных прышло ў голаву Антосю. Да і каму ні ўзнакі далася „Галіца“?.. Ды ці толькі „Галіца“ ?! Усюды дзе ні ткніся—гразь, балота, праца дарэмная. Цяпер усё жыцьцё сваё Антось параўнаваў з „Галіцаю“ і нешта роўнае аднолькавае ўбачыў у гэтым параўнаньні. Кожную хвілінку адчуваў Антось усё большую і большую сьціснутасьць падобнымі „Галіцамі“. У галаву прыходзіла новая і сьвежая думка:

— Вызваліцца ад гэтае гразі, жыць пачалавечаму.

— Было яно так, сынок: ішоў каваль позна ўвечары з радзін з суседняй вёскі. Ішоў кладкамі. Быў троха п‘янаваты. Ну, значыць, пакаўзнуўся ў тэй струзе і... капут яму, вечны спакой яго душацца.

Пятрусь задумаўся над лёсам беднага каваля. Бацька таксама зьвязваў свае раскіданыя думкі ў адзін вузел.

— Дарэмна мучацца людзі, ды яшчэ і топяцца,—прамовіў да бацькі Пятрусь,—канавы пракапаць, у рэчку спусьціць ваду і нічога падобнага ня будзе. Трава будзе мурожная тады расьці на тых стругах.

І чым больш Пятрусь паглыбляўся ў сэнс вясковага жыцьця, распазнаваў яго, тым больш нарастала ў яго злосьці і кіпучасьці. Хацелася адным узмахам усё пераравянуць. Гэта апошняе так захапіла Пятруся, што цэлую ноч гаварыў спрасоньня, гаварыў толькі аб перабудове вёскі.

— Змыць цябе, дзіцятка, трэба, пярэпалахі...—прыставала матка да Пятруся.

— Мае пярэпалахі ня змываюцца,—адказаў Пятрусь.

— Змыюцца, сынок. Так ня можна. Захварэеш ды ў сухоты ўпадзеш.

— Ня ведаеш ты нічога.

— Што?..

— Нічога, кажу, так папраўлюся.

— Паправісься!?

— Я пазаву шаптуху

— А я ўцяку ад яе.

Слова за слова і спрэчкі станавіліся сур‘ёзнымі. Пятрусь уважыў матцы. Сьціх і—ні слова.

— І што ён усё робіць?—пыталася маці ў бацькі,—гэта-ж думаць, сядзіць і сядзіць над гэтымі кніжкамі ды паперамі, здурнее. Вёска жыве дрэнна...Знашоўся хто палепшыць жыцьцё! А усё гэта горад вінаваты і дзядзька.

— Гэ, нашла аб чым пытацца! век цяпер такі, ну і ўсе такія,—адказваў стары Антось.

— Век...гэта век, не разьбярэш што гэта за век?..

— Куды табе разьбіраць...Я і то ўжо на Пятруся больш здаюся, чым ведаю сам.

Бацька Пятруся быў добрым чалавекам. Нават талковы чалавек.

Бацька любіў Пятруся. Любіў больш чым любоўю бацькі. Любіў, як сына, і неяк чамусьці адчуваў, што любіць, як свайго сябра. Хоць аб апошнім нікому Антось не прызнаваўся.

Надыходзіла вясна. Пятрусь цяпер асабліва, як ніколі, распачаў працу. Яго ужо не абмяжоўвала свая сям‘я. Пятрусь больш усяго стаў зьяўляцца на зборы сялян. Зборы гэтыя адбываліся кожны дзень у шаўца Палікара. Зьбіраліся мужчыны проста ад німа чаго рабіць. А ў компаніі другая справа. Тут і пакурыш нават смачней, як адзін у сваёй хаце. А курылі—страх! Пад весну ўжо ўвесь ліставы тутунь вышаў. Мужчыны знашлі выйсьце з гэтага становішча—сушылі пні, таўклі ў ступе і курылі замест „ачышчанай жылкі“.

Вось на гэткія зборы хадзіў Пятрусь. На гэтым зборы вельмі часта заходзіла справа і аб тым, як будуць сяголета сеяць. Тады Пятрусь ня сьцерпліваў і падымаў пытаньне аб ачыстцы насеньня.

— Што ты ўпіўся, яно-ж чыстае?—нападалі на Пятруся.

— Веянае ўсё, як сьлед.

— Але ня чыстае,—стаяў на сваём Пятрусь. —Зерняты павінны быць адно ў адно—буйныя і здаровыя. А веялкаю ніколі так ня зьвееш. Сеяць можна толькі самыя лепшыя зярняты, тады і ураджаў будзе лепшы. І зноў Пятрусь даводзіў гэта палажэньне словамі дзядзькі і настаўніка. Тады ўсе былі згодны і пачыналася другая гутарка, як і дзе ачысьціць насеньне. Але выйсьце было, блізка Саўхоз.




Пятрусь з агрономам на сходзе,

— Вось паглядзіце, як у нас будзе расьці ўсё ў агародзе,—гаварыў напасьледак Пятрусь.

Пры школе ў гэтым годзе залажыўся агарод. Агарод павінен быць паказальным. Падтыхтоўка працы ў агародзе пачалася загадзе. Кожны дзень настаўнік праводзіць з вучнямі і піонэрамі гутаркі на гэту тэму. Два разы ўжо прыязджаў аграном. Усё йшло так, як кажа навука. Чакалі вясны.

II.

Вясна прышла. Умылася сырая зямля чыстаю мяккаю вадою. Амаладзілася зямля. Навокал усё выглядвае маладым, вясёлым, радасным і счасьлівым. Шаўковаю травіцаю прыбраліся лугі і сенажаці. Зазелянела і поле. Толькі дзе-ні-дзе на палосках жыта плакалі блядыя лапінкі. Гэта вымакліны.

Ажыў і лес. Засьпяваў лес на розныя лады вясеньні гімн. Далёка і шырока пералiўнымі хвалямі нёсься гэты гімн над ваколіцай, залятаў ён і ў шэрую вёску, будзіў яе. Але вёска ня спала да гэтуль. Як мурашкі ўжо бегалі сяляне то ўзад то ўперад па сваіх палосках. Застракацілася поле.

Усім было весела, шчасьліва ў гэты вясеньні час.

Дзеці таксама павылазілі з цёмных хатак. Надаела сядзець за зіму. Цэлы дзень зьвіняць дзіцячыя галасы на вуліцы. Дзеці качаюць кацёлку, гуляюць усьпіжа, а некаторыя пякуць на сонцы бліны з мокрага пяску.

Але ня усе дзеці гуляюць на вуліцы; вучні і піонэры усе за працаю ў сваім агародзе.

Пятрусь так аддаўся гэтай справе, што есьці забываўся.

— Прападзеш з голаду з сваім агародам,—казала матка.

— Мне няхочацца, — адказваў Пятрусь.

— Ня хочацца!.. Часу няма скажы

— Да і часу няма...

— Ну што там у вас ужо хаця будзе? схаджу калі небудзь пабачу.

Прыходзь, навучысься ў нас, як працаваць у агародзе.—Ха-ха-ха—навучысься... Гэта-ж думаць?

— Няма чаго сьмяяцца, убачыш.

— Гэта ён дык ён...—матка кінула сваю працу і падышла да Пятруся.

— Гарыць з вас сьвет, бацька бедны дык ўсё насеньне ачысьціў. Ды і ўся вёска на яго глядзя. А ўсё праз цябе і праз піг-




... гарыць з вас сьвет...

нэраў гэтых. А цяпер-жа што новага выдумаеш, мой агрономчык?

— А цяпер будзем „Галіцу“ асушваць. Няхай толькі высахне, каб ільга было капаць канавы.

III.

— Была яшчэ вясна. У адзін прыгожы соўнечны дзень зьбіралася ўся вёска на экскурсію ў агарод пры школе. Экскурсыя шмат займала клопату перад гэтым у піонэраў і настаўніка. Нават аграншма сыскалі ў гэты дзень.

Пятрусь цалкам аддаўся цяпер арганізацыі экскурсіі. Ен бесперастанку бегаў, клапаціўся, каб як найлепш арганізаваць гэту справу.



... вось наша капуста, а там буракі ..

У вызначаны час на агарод прышла ўся вёска.

Аграном пачаў тлумачыць сялянам аб карысьці навукі агрономіі, прыстасоўваючы гэта да школьнага агароду.

Піонэрам таксама не цярпелася.

— Вось тут мы пасадзілі на спробу буракоў, тут моркаў, а там наша капуста— чуваць былі дзіцячыя галасы.

Школьны агарод у гэты час выглядаў нейкай дзіўнай мясьцінай. Зусім адмяніўся ён ад сялянскіх агародаў. Гародніна ўся была сіняй, лапушыстай.

— Вось тут—то вырасьце! А й праўду яны казалі, што мы ня ўмеем самі весьці гаспадаркі. Вось што значыць умець!—дзівіліся сяляне з агароду.

— Гэта-ж думаць, гэтак расьце усё. Ну, налета папрашу настаўніка з дзяцьмі, каб памаглі і мне так пасадзіць, як у іх,—прыкмячала старая кабеціна Марыся.

— Як гэта зрабіць так?—сыпаліся запытаньні сялян да агронома.

Аграном усім і праз усё тлумачыў. Аграном быў вельмі здаволёны экскурсіяй і захапляўся сваім тлумачэньнем. Голас агранома і выгавар быў настолькі захопліваючым, што кожнага даймала да самага сэрца слова агронома. Кожны адчуваў вялікі праступак за сабою, што ён не разумее навукі і дарэмна марнуе сваё „жыцьцё“ ў беднасьці.

Вясновае сонца горача смаліла зямлю. Усё на агародзе цьвіло і распускалася.

У аддаленьні сьпявала сваю шумліваю песьню бурлівая рэчка. Ціха і нізка прыгнулася да яе рскірацістая лаза і слухала дзіўную песьню гэтай задорнай, зыркай рэчкі.

Экскурыя доўга любавалася агародам. Толькі пад самы вечар пачалі разыходзіцца па сваіх хатах.

Яшчэ большая энэргія забурліла ў настаўніка і піонэраў. А Пятрусь будаваў сягоньня новы плян далейшай працы.

З галавы яго ніяк ня выходзіла „Галіца“, пасёлкі, аб якіх сягоньня ўвесь час гутарыў аграном.

— Як бы ня было, а наша справа цьвіце. Маладыя храсткі вырастаюць з нашае справы,—думаў Пятрусь ідучы сягоньня дамоў.

А. Я.



# Піонэр.

Сьмела ў ногу! Шырай крок,
Весялей твар, рукі ў бок!

Стройна ў рад, бо з нас цяпер:
Кожны воін—піонэр! } 2 разы

Годзе галубоў ганяць
Ды ў паляначкі гуляць.

Прыпеў.

Годзе людзям шыбы біць,
Бескарысна час губіць.

Прыпеў.

Бо сваволя, братцы, дрэнь!
Цяпер іншы склад за дзень:

Прыпеў.

Устаём мы раніцой,
Твар асьвежваем вадой;

Прыпеў.

На гімнастыку ідзём,
Гучна, весела пяём.

Прыпеў.

Як сьняданьне пададуць,
Можна чутку адпачнуць.

Прыпеў.

Пасьля йдзе вучобы час:
Політграмата, расказ,

Прыпеў.

Пісаніна ды падлік;
Да парадку кожны звык.

Прыпеў.

Час разьмераны, як сьлед,
На гульню і на абед

Прыпеў.

Па камандзе муштры зноў—
Дружны водгук: „я гатоў!“

Прыпеў.

**А. Паўловіч.**

# Піонэрскі кліч.

Вось так зьява!—
Ўлева, ўправа
Глушыць вокліч поле, бор...
Гэта з вёскі
Адгалоскі
Рвуць паветра, рвуць прастор!
Дзень хоць шэры,
Піонэраў
Твары соўнечна гараць!
Гразь, балота—
Глупства, што там!
Гэй, наперад юных раць!
Грышка, Манька,
Зоська, Ванька,
Жыва, песьню зацягні!
Нам ня трэба
Бога, неба—
Годзе, ксёнжа, не мані!
Што-ж ты думаў,
Лысы куме,—
Будзем пацеры казаць?
Гнуць калені?
Дзядзька Ленін
Навучыў нас працаваць.
Пойдзем ў школу
Комсамола—
Школу працы, барацьбы.
І змагацца
З чорнай рацьцю
Будзем сьмела, як яны!..
Гэй-жа рвіся,
Песьня ў высі
Медна-гучных галасоў!
Піонэраў—
Ой, бяз меры!
Як на полі каласоў...

**І. Плаўнік.**
(*Сябра „Маладняка“*)

# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Паважаны дзядзька Чарвякоў!

Наш атрад носіць Ваша імя.

Мы будзем пісаць Вам лісты аб сваёй працы. У нашай вёсцы вельмі цяжка працаваць. Сродкаў няма ніякіх. Ёсьць у нас клюб, дзе мы й праводзім свае заняткі. Нядаўна выпісалі сабе троха літаратуры. У нас у атрадзе было 50 чалавек, а зараз толькі засталося 36, бо шмат паехала вучыцца. Хутка атрад наш павялічыцца, бо да нас прыходзіць шмат дзяцей з суседніх вёсак.

Наш клюб дрэнна абсталяваны: няма малюнкаў і літаратуры.

Вы нам пішэце, як жывуць піонэры ў горадзе, як працуюць. Мы будзем рады. Перадайце ад нас ім прывітаньне.

Дубровіцкі атрад юных піонэраў.

(Калінінская акруга, Клімавіцкі раён. Сяло Дубровіца).

## На мяжы.

Каля самае мяжы з Польшчаю ў вёсцы Ратамцы з'організаваўся атрад піонэраў.

—Паглядзім, паглядзім, што будзе... галовы патаўком,—шапталіся кулацкія сынкі.

Але не спалохаўся чырвоны гальштук і сьмела распачаў працу сярод бядняцкіх дзяцей. Цяжкая гэта была праца. Маленькі атрад (12 асоб) зьбіраўся ў школу ў вольную часіну. Тут праводзіліся розныя гутаркі з сялянскімі дзяцьмі. Часам прыяжджалі да нас і з Менску піонэры.

Цяпер у атрад запісваецца шмат дзяцей. Атрад мацнее. Растуць чырвоныя гальштукі. Праца пры дапамозе вясковае ячэйкі пашла на лад.

Такарчук.

**Піонэр! Ці падпісаўся ты на сваю часопісь „Беларускі Піонэр"?**

## Уцягваем у працу сялянскіх дзяцей.

Бывала пройдзе сялянскі хлопец каля нашага клюбу й глядзець ня хоча. Але піонэры сваім прыкладам і прыгожымі гульнямі змаглі прывабіць іх да сябе. Паказалі ім



свой клюб, растлумачылі сялянскім дзецям, што піонэры ёсьць іх сябры і браты. Зараз маецца вялікае жаданьне сялянскіх дзяцей залічыцца ў піонэрскі атрад.

Атрады, зварачайце больш увагі на сялянскіх дзяцей—гэта наша задача!

Піонэр I-га атраду імя Томскага.

Эх, зацьвіў, зацьвіў садок—
Пойдзем пагуляем.
„Беларускі Піонэр"
Там мы пачытаем.

# Чырвоны гальштук на вёсцы.

(З матар'ялаў перагляду атрадаў у Бабруйскім раёне).

Дзіцячы комуністычны рух паступова шырыцца па нашых беларускіх вёсках. Але на шляху яго сустракаецца яшчэ шмат перашкод. Аб іх мы зараз пагутарым.

Першае. Больш за ўсё шкодзіць працы тое, што вясковыя комсамольцы ня зусім добра разумеюць карысьць піонэрскага руху. Працуе толькі адзін павадыр, а ячэйка яму амаль нічым не дапамагае.

Другое. Самі павадыры хлопцы найчасьцей мала адукаваныя.

Трэцяе. Партыйцы ў вёсках мала зварачваюць увагі на дзіцячы рух.

Чацьвертае. Настаўніцтва ў большасьці сваёй не знаёма з піонэрскім рухамі ня ведае з якога боку падыці да працы і чым яно можа быць карысным. Жаданьне працаваць у настаўніцтва ёсьць.

---

У званіцы зьвініць звон,
Сьвята надыходзіць.
Нам вяліКДзень—не закон,
На спэктакль свой пойдзем.

---

Пятае. Ні адзін вясковы атрад ня мае матар'яльных сродкаў. Вельмі мала адпаведнай літаратуры, газэт, часопісаў. Гэта затрымлівае ўсякую працу, актыўнасьць піонэраў.

Шостае. Адносіны сялян да піонэраў ня ўсюды здавальняючыя. Селянін яшчэ не зразумеў піонэрскай організацыі.

У сувязі з папярэднім вясковыя атрады маюць шмат слабых бакоў у сваёй працы, як адсутнасьць грамадзянскага выхаваньня, політычнага і інш. Прыкмячаецца адсутнасьць дзяўчатак-сялянак, слабая сувязь з настаўніцтвам, ячэйкай і г. д.

Ня гледзячы на ўсё гэта, піонэрскі рух на вёсцы ўзмацняецца. Неабходна дапамога вясковых комсамольцаў організацыі піонэраў.

М. Малаковіч.

## Год працы.

Роўна год прашоў з таго моманту, як у Барысаве ў першы раз зьявіліся чырвоныя гальштукі. Да гэтага ў нас былі спартакі. Атрад спартакоў налічваў 10 чалавек і займаўся толькі гімнастыкай.

Але вось прышла ў 7-ю школу прадстаўніца Дзіцячага Бюро Растоўская і расказала аб піонэрах, хто яны такія, чаго хочуць. З увагай выслухалі мы т. Растоўскую. Мы ўбачылі і адчулі карысьць новай організацыі дзяцей. Пасьля гэтага адразу запісалася ў атрад 51 чалавек, а ў другі чыгуначна-дарожны атрад каля 30-х чалавек.

У першыя часы мы ня мелі свайго клюбу. Заняткі зьвеньняў адбываліся ў школе, што перашкаджала працы. Але піонэрская ахвота брала сваё і праца йшла.

Організацыя наша расла.

У цяжкай і ўпартай працы прашоў год.

Зараз замест двух атрадаў мы маем трынаццаць. У хуткім часе організуюцца яшчэ два.

За год свайго жыцьця наша організацыя падрыхтавала сваім старэйшым братом добры падарунак: адзінаццаць вытрыманых піонэраў перададзена ўжо ў комсамол.

18 сакавіка—гадавіна нашай організацыі—мы падагульнілі нашу працу. Зараз на другім годзе свайго існаваньня з большаю цьвёрдасьцю й рашучасьцю бяромся за выпаўненьне сваіх задач, каб апраўдаць вялікае званьне юнага Ленінца.

Пікор Лёнька.

---

# ПІОНЭРАМ.

Наступіла наша сьвята,
Гэй, наперад, арляняты!
Разам ў ногу, шырай шаг!
Вышай узьвіўся вольны сьцяг.

З кожнай новай гадавінай
На адноўленых руінах
Мы увысь расьцём, ідзём
Жыцьцерадасным шляхом.

Пад апекай комсамольца
З піонэра-дабравольца—
Стане горды піонэр,
Комунарам, як ня мер.

Піонэры арляняты,
З комсамольцам, нашым братам,
Разам ў ногу, шырай шаг,
Вышай наш юнацкі сьцяг!

Піонэр С. Грышчук.

## Зьмена расьце.

Нядаўна мы сьвяткавалі гадавіну існаваньня атраду. За гэты год апрача працы ўнутры атраду й сярод дзяцей, мы перадалі ў комсамол 8 чалавек. Яны зьяўляюцца добрымі комсамольцамі і кіруюць цяпер працаю атраду.

У часе юбілею мы перадалі ў комсамол яшчэ 4-х піонэраў: 3-х рабочых падросткаў і адну батрачку. Зьмена расьце; яна ўвесь час будзе папаўняць шэрагі комсамолу.

Х. Берхін.

(М-ка Крычаў, Калінінскае акругі).

## Трэба ўсім быць піонэрамі.

(М-ка Капыль, Случчына).

Калі ў нас ня было ніякай організацыі, мы былі, як дзікія. Па нядзелям бацькі выпраўлялі нас у царкву, слухаць як поп людзей дурманіць.

У мінулым годзе з'організавалася ў нас некалькі хлопчыкаў і дзяўчатак ў атрад юных піонэраў. Тады мы адзін за другім пачалі падаваць заявы у атрад. Але, каб хто папытаў нас тады хто такія піонэры, мы не адказалі-б. Зараз мы ведаем, што піонэры гэта зьмена нашаму правадыру Комсамолу. Ведаем ужо добра свае заданьні і мэты.

Трэба ўсім быць піонэрамі, бо царква нічога нам ня дасьць добрага.

Піонэр А. Малевіч.



Магілёўскія курсы павадыроў вясковых отрадаў.

## Ліст да дзядзькі Чарвякова.

Дзядзька Чарвякоў!

Мы піонэры 17-га Нова-Барысаўскага атраду юных піонэраў пасылаем Вам шчырае прывітаньне. На адным з сходаў нашага атраду мы ўхвалілі насіць Ваша ідэёвае імя.

Маем да Вас дзьве просьбы: калі маеце магчымасьць, прышлеце нам сваю біографію, портрэт.

Мы, піонэры, просім вас трымаць з намі цесную сувязь.

Па даручэнью піонэраў 17 атраду напісаў І. Гозін.

---

Плача поп і плача дзяк,
Плачуць надрываюцца.
З піонэрамі ніяк,
Бач, яны ня справяцца.

# А ШТО ЧУВАЦЬ У НАШЫХ ШКОЛАХ?

## Выпаўняйце заветы Ільліча.

(Ворша).

Закон піонэраў і заветы Ільліча кажуць, што піонэры павінны быць лепшымі вучнямі ў школе. Шмат хто з піонэраў ня можа выпаўніць гэтага, бо вельмі заняты ў атрадзе. У той час як адны зусім вольныя ад працы, другія піонэры—павадыры звеньняў, загадчыкі бібліотэк, сябры рэдколегій атраду і гэта ўсё аднача́сна на аднаго чалавека! Акрамя гэтага, ім прыходзіцца працаваць у форпосьце, розных гурткох, хадзіць на сходы ЛКСМ. Пры гэтым у іх не застаецца часу для падрыхтоўкі лекцыяў. Такім чынам піонэры ня могуць выпаўніць асноўнага завету Ільліча: „Піонэр—лепшы вучань у школе“. Атрады павінны падумаць аб разьмеркаваньні працы, каб у піонэраў заставаўся час для вучобы.

Піонэры: З. Позін. Р. Розенблюм.

---

Эх, кацiся ты, кацёлка,
Па вуліцы гладкай.
Сёньня ўвечары ў школку
Пойдзем на даклад мы.

---

## Патрэбны сяброўскія суды.

У шмат якіх школах ёсьць выбарныя комісіі па організацыі сяброўскіх судоў. Яны не вядуць ніякай працы, бо чакаюць нейкай вялікай „угалоўнай“ справы. І, як відаць, не дачакаюцца яе. Між тым пад рукамі ёсьць шмат матар'ялу для судоў, напрыклад, суд над курэньнем, „мацяршчынай“ і інш. Толькі такія суды змогуць адучыць вучняў ад курэньня, лаянкі і інш.

За гэту справу неабходна зараз жа ўзяцца. Комісіі, годзе спаць!

Салавейчык Майсей.
(Менск, 5 школа).

## Форпост, прачніся!

(Менск, 18-я школа).

Піонэры ў школе заўжды першыя. Піонэрскі форпост—організатар школьнага жыцьця. А вось у нас гэтага нельга ўбачыць. Форпост мы маем, а працы ён не вядзе ніякай. Як толькі форпост з'організаваўся, праца йшла добра. Адбываліся часта зборы, праводзіліся гутаркі, піонэры актыўна працавалі ў школе. Але як прыслалі да нас павадырку Аксельрод, дык праца зьнікла. Форпост зусім заснуў.

Форпост, прачніся!

Пікор Аганёк.

## Настаўнікі не памагаюць.

(Бярэзінская сямёхгодка).

З'організаваўся ў нас у школе форпост. Форпост добра павёў працу й заваяваў аўторытэт вучняў. Але цяжка прыходзіцца нашаму форпосту без дапамогі настаўнікаў. Настаўнікі ні разу ня прышлі на пасяджэньне форпосту, колькі мы іх не прасілі. Настаўнікі нашы мала цікавяцца піонэрскай працай у той час, калі яны павінны быць першымі памоцнікамі ў працы форпосту ў школе.

Сімкін.

## Трэба падцягнуцца!

(Мсьціслаў, Калінінскае вакругі).

Нядаўна у нас адбылася выстаўка куткоў Леніна ўсіх школ (іх у нас 4), піонэрклюбу й дзіцячага гарадку. Пасьля выстаўкі быў сход рэд-колегій усіх куткоў, уваход на сход быў вольным. Сход прызнаў усе куткі нездавальняючымі. Было даручана абранай комісіі зрабіць даклад, якім павінен быць куток Леніна.

Да наступнай выстаўкі трэба абсталяваць свае куткі, як належа быць.

Ю. Гаўбін.
(Вуч. 7 клясы).



# Ліст т. Кнорына атраду свайго імя.

Дарагія таварышы піонэры!

Ваш ліст атрымаў некалькі дзён таму назад і вельмі дзякую вам за ваша сяброўства й увагу да мяне, за гальштук і значок, якія вы мне прыслалі.

Справа піонэра—вялікая справа. Нам, старэйшаму пакаленьню, ня ўдасца ўбачыць поўнага комунізму. Ваша-ж пакаленьне закончыць вялікую барацьбу, якую мы пачалі ў кастрычніку 1917 году, і збудуе комунізм. Затым вы павінны вучыцца быць добрымі комуністымі, ды будаўнікамі новага жыцьця.

Першая справа кожнага піонэра выпаўняць заветы Леніна, а асноўны завет Леніна для вас быў—трэба вучыцца, але вучыцца ня толькі па кнізе, але й вучыцца, як працаваць. Я вас прашу напісаць, як ідзе ваша праца ў школе й па за школай.

Вы пытаецеся маю біографію. Калі небудзь я вам напішу больш падрабязгова, а зараз скажу толькі некалькі слоў.

Я радзіўся ў Латвіі ў беднай сялянскай сям'і. Мне было дзевяць гадоў, калі пан прагнаў бацьку з зямлі. Тут я ўбачыў усю несправядлівасьць, якая йснуе пры буржуазным укладзе жыцьця.

Бацька зрабіўся шаўцом, а я наняўся да багатага гаспадара пастухом, каб зарабіць хлеб на зіму на школу. Стадка было вялікае й мне было вельмі трудна. Гаспадыня была вельмі нягодная й карміла мяне вельмі дрэнна і я чуць вытрымаў да восені. Такая-ж злосная была й дачка гаспадара. Я ўжо тады вельмі любіў чытаць. Але калі гаспадыня альбо яе дачка знаходзілі мяне з кнігай, яны адымалі кнігу й забараnялі чытаць.

Так я тры гады праслужыў у розных гаспадароў улетку пастухом, узімку хадзіў у школу. Я ўбачыў, што ўсе гаспадары аднолькава дрэнныя і што трэба зрабіць так, каб іх зусім ня было.

Пасьля сканчэньня школы, я паступіў на фабрыку. Гэта было ў 1905 годзе. Плацілі мне 15 кап. у дзень. Мы забаставалі, пашлі з чырвонымі сьцягамі да другое фабрыкі, дзе было больш рабочых, каб аб'яднацца. Выкацілі на тачцы з фабрыкі аднаго майстра, які дрэнна жыў з намі. Тут я ў першы раз убачыў, як рабочая кляса вядзе барацьбу. Потым пачалося ў Латвіі паўстаньне. Памятую добра адзін дзень, калі сяляне падпалілі ваколічныя ўсе панскія маёнткі й выгналі паноў. Я вельмі радаваўся. Нашы парабкі з засады напалі на царскіх казакоў. Тыя спужаліся й пабеглі, згубіўшы свае шапкі.

Тут я ўбачыў, што рабочыя нават з дрэнным аружжам могуць перамагчы. Але цар прыслаў на дапамогу з войскам гэнэрала Арлова, які разьбіў рабочых. Шмат сялян палавілі й расстралялі. У тых хутарох, дзе былі рэволюцыянэры, палілі якую-небудзь будову. Я чуць-чуць не загінуў пры аднэй перастрэлцы. І вось тут у мяне, а мне было тады 15 год, зарадзілася вялікая нянавісьць і я стаў соцыялістым бальшавіком. Другі раз скажу больш.

Прывітаньне ўсім дзецям.

Ваш В. Кнорын.



# НАШЫ КЛЮБЫ.

## Наш Цэнтральны клюб.

(Магілеў).

Нядаўна ў нас адчыніўся цэнтральны піонэрскі клюб. Сюды кожны вечар зьбіраюцца піонэры пачытаць газэту ці часопісь. Пры клюбе маецца чытальня й шахматны пакой. Хутка пачнуць сваю працу гурткі й майстэрні. Адзін гурток ужо працуе.

Піонэр Эмдзін.

## Патрэбен цэнтральны клюб.

Добра было-б адтрымаць агульна-гарадзкі піонэрскі клюб. Якраз цяпер адыходзіць царква па Інтэрнацыянальнай вуліцы пад комхоз, а з яе мог-бы быць добры піонэрскі клюб. Комхозу трэба падумаць над гэтым пытаньнем. Піонэры чакаюць.

Дзіц. Корэс. Б. Лур'е.

## Займаемся спортам.

Да гэтага часу заняткаў па спорту ў нас не вялося. Мы ня мелі добрага кіраўніка. Зараз у мястэчку вайсковыя абучаюць дапрызыўнікаў. Мы гэта скарысталі і дагаварыліся з адным вайскоўцам, каб ён абучаў нас спорту.

Цяпер мы з вялікай ахвотай і акуратна праводзім спорт-заняткі. Сімкін.

(М-ка Бярэзіна, Барысаўскае акругі).



---

### Я ня быў піонэрам.

Помню, ой добра помню, як я ды калісьці
Быў малы і ганяў чараду, пасьвіў сьвіньні.
Шапацеў мне кудлаты сасоньнік лісьцем.
Слухаў песьню тады я ракі срэбна-сіняй.
Ой ня раз ды у поўдзень я цень сваю мераў;
З пастушкамі гуляеш, бывала, на грудзе...
Ня было йшчэ тады, як цяпер, піонэраў,
Ня туліўся чырвоненькі гальштук да грудзяў.
Мне казалі: „маліся, маліцца так люба“!
Прымушалі згінаць перад богам калені.
Ня было шчэ' тады, як цяперака, клюбаў,
І ня ведаў тады я: чаму вучыў Ленін.
Не для нас парабкоў і пастушых дзяцей
Была ў школах вышэйшых асьвета.
Толькі раніца прыдзе, хацеў ня хацеў—
Быў павінен гнаць сьвіньні одно гэта ведаў.

* * *

Сёньня йду я уперад з грамадамі дружна;
Маё сэрца напоўнена моцнаю верай.
Я прайшоў цяжкі шлях, праз жыцьцёвую кузьню,
Ня прышлося мне ў шэрагах быць піонэраў!

Язэп Падабед.





# АБ НАШАЙ СУВЯЗІ З ДАШКОЛЬНІКАМІ.

Дашкольнікі—гэта дзеці ад 3 да 8 год. Яны яшчэ ў школу ня ходзяць. Затое яны ўжо аб'яднаюцца для агульных заняткаў, для падрыхтоўкі да школы.

Пры многіх школах з такіх дзяцей утвараюцца нулявыя групы.

У некаторых гарадох, мястэчках і вёсках такія дзеці зьбіраюцца ў дзіцячых садох і на дзіцячых плашчадках. У многіх дзіцячых дамох ёсьць групы дашкольнікаў. Але многа ёсьць дашкольнікаў—дзяцей рабочых і сялян, якія бегаюць па вуліцах, б'юцца, капаюцца ў гразі і пяску. Ніхто іх не даглядае.

Запытайце любога з гэтых „карапузікаў“: кім ён хоча быць, вы абавязкова атрымаеце адказ:

— Пінэрам, піванэрам.

Мала ёсьць такіх дзяцей, якія не пяюць нашых піонэрскіх песень. Вядома, дзеці ня ведаюць часта ні слоў ні мотыву песьні і перакручваюць яе на свой лад.

Кожны дашкольнік хоча стаць піонэрам, хоча ўвайсьці ў нашу агульную сям'ю. Кожны дашкольнік хоча атрымаць чырвоны гальштук.

Ці можам мы—піонэры—прайці міма гэтых дзяцей—нашых малодшых братоў і сясьцёр? Вядома не.

Піонэр організуе дзяцей, якія яшчэ неорганізаваны; ён прымае удзел з імі ва ўсім жыцьці, якое іх акружвае. Піонэр усім дзецям прыклад—вось які наш закон.

Што-ж мы, піонэры, павінны зрабіць, каб памагчы гэтым дзецям організаваць іх?

### Зьвязацца з дашкольнікамі.

Кожны атрад павінен выведаць, ці няма блізка дзе ўстановы для дашкольнікаў, дзіцячага дому, дзіцячага саду, плашчадкі, нуль-групы.

Калі такія ўстановы ёсьць, атрад даручае аднаму з сваіх зьвеньняў зьвязацца з гэтаю ўстановаю.

Зьвяно зьяўляецца к дашкольнікам. Праводзіць яно з імі новыя гульні, разучвае новыя песьні. Зьвяно прапануе ім устанавіць сувязь з іх атрадам.

Калі дзеці згодзяцца (а яны згодзяцца з вялікай радасьцю), то неабходна папрасіць на пасяджэньне савету атраду кіраўніка і каго-небудзь з дзяцей. На гэтым пасяджэньні неабходна вырашыць, што павінен рабіць піонэр у дашкольнікаў.

Разам з гэтым, рада павінна вылучыць адно зьвяно для кіраўніцтва сувязьзю з дашкольнікамі. Гэта зьвяно распрацоўвае плян працы, яно адказвае за працу перад саветам і зборам атраду.

### Унесьці новае і цікавае ў жыцьцё дашкольнікаў.

Піонэры, прыходзячы к дашкольнікам, уносяць у іх жыцьцё што-небудзь новае і цікавае: песьні гульні, дзіцячыя газэты і часопісі; яны разучваюць з імі п'ескі, вершы. Піонэры сумесна з дзецьмі стараюцца прыцягнуць дашкольнікаў, якія яшчэ не організованы, да сваёй працы.

Ня трэба толькі забывацца, што мы маем справу з малымі. Ня трэба ім паказваць таго, чаго яны не зразумеюць. А калі дзеці не зразумеюць, то й не зацікавяцца.

### Зьвязаць дашкольнікаў з грамадзянскім жыцьцём.

Дашкольнікі вельмі цікавяцца тым, што робіцца навокал іх.

Перад якім-небудзь сьвятам піонэры расказваюць аб гэтым сьвяце дзецям. Піонэры разам з дзецьмі падрыхтоўваюцца да сьвята і разам праводзяць яго.

Атрад можа даручыць дашкольнікам частку сваёй працы: напр., наклеіць плякат, даць свае нумары ў атрадным концэрце, сачыць за чыстатою ў атрадным клюбе.

На некаторыя свае сьвяты, зборы, гульні, экскурсіі піонэры могуць запрашаць і дашкольнікаў.

Атрад павінен зьвязаць дашкольнікаў з тым заводам, профсаюзам, пры якіх ён арганізаваны. Трэба дабіцца іх увагі к дашкольнікам.

### Памагчы організаваць сваё жыцьцё і працу.

Дашкольнікі маюць свае агульныя сходы, комісіі. Яны самі абгаварваюць пытаньні аб організацыі свайго саду, плашчадкі і дому. Піонэры многа чаго тут змогуць зрабіць.

Зьвяно, адпаведнае за сувязь з дашкольнікамі, павінна вылучыць сваіх піонэраў у дзіцячыя комісіі. Гэтыя піонэры павінны прымаць удзел на сходах дзяцей, памагаць ім ва ўсім іх жыцьці.

Трэба толькі помніць, што піонэры не камандыры дашкольнікаў. Піонэры старшэйшыя браты, піонэры дапамагаюць дашкольнікам.

### Згаварвацца з кіраўнікамі і не захапляцца праз меру.

Трэба помніць тое, што за выхаваньне дашкольнікаў адпавядаюць іх кіраўнікі. Яны й праводзяць асноўную працу з дзяцьмі. Піонэры толькі прапануюць ім свае сілы для дапамогі.

Усю сваю працу піонэры павінны праводзіць узгадняючы з кіраўнікамі дашкольнікаў пад кіраўніцтвам павадыра атраду.

Для большай сувязі трэба на збор зьвяна запрашаць кіраўніка. Таксама трэба яго запрашаць і на тыя пасяджэньні савету й зборы атраду, на якіх абгаварваецца пытаньне аб працы з дашкольнікамі.

Павадыр атраду павінен уваходзіць у пэдагогічную раду дзіцячага саду, плашчадкі і г. д.

Ня трэба яшчэ й захапляцца лішне гэтаю працаю. Бо калі ўзяцца горача за працу з дашкольнікамі, можна забыцца й на другую працу. Гэта праца—частка агульнай працы зьвяна. Яна павінна займаць азначаны час.

Ня трэба дапускаць, каб піонэры цягаліся ў дашкольнай установе, калі ім захочацца. Бяз ніякай патрэбы й толку цягацца ня трэба. На ўсё ёсьць свой час, які ўваходзіць у агульны расклад.

Зьвяно, адпаведнае за сувязь, трэба мяняць кожныя 2-3 месяцы.

### Організаваць і другіх дзяцей.

З прыходам вясны пачнуць утварацца летнія плашчадкі для дашкольнікаў. Атрад павінен паклапаціцца, каб пры яго заводзе



У вёсцы.

ці профсаюзе была організавана такая плашчадка. Атрад павінен вытлумачыць усім дарослым, для чаго організуецца плашчадка. Вытлумачыць трэба ім, чаму абавязкова трэба пасылаць туды сваіх дзяцей.

Піонэры стараюцца ўцягнуць на плашчадку чым больш дзяцей. Паперадзе усяго, вядома, сваіх меншых братоў і сясьцёр.

Атрад павінен дапамагчы абсталяваць плашчадку. Ён павінен зразу ж пачаць працу на гэтай плашчадцы.

Калі плашчадку ўтварыць не магчыма, то атрад можа пры сваім клюбе ўтварыць невялікую групу дашкольнікаў. Для такой групы праз ячэйку трэба папрасіць кіраўніка ў аддзеле асьветы.

**Дашкольнікі—ня „чырвоныя зоркі“.**

Ні ў якім разе ня можна зьмешваць дашкольнікаў з „чырвонымі зоркамі“. І ня ўздумайце організоўваць іх у групы „чырвоных зорак“. „Чырвоныя зоркі“—гэта дзеці ад 8 да 11 год. Яны-ж толькі малодшыя піонэры. Дашкольнікі зусім другое. Утварыць з іх якую небудзь, організацыю яшчэ рана. З імі трэба працаваць на іх плашчадках, у садох і дзіцячых дамох.

Ужо з тых дашкольнікаў, з якімі працавалі піонэры, напэўна, выйдуць добрыя „чырвоныя зоркі“.

І так, піонэры давайце працаваць сярод дашкольнікаў.

Будзем гатовы! Лёва.

# МАЛАДНЯК.

У рэдакцыю за апошні час паступіла ад піонэраў шмат запытаньняў аб тым, каб расказаць піонэрам, што такое „Маладняк“.

У гэтым нумары мы й даем кароценькі артыкульчык аб „Маладняку“. Артыкульчык наш мае агульны характар і зьяўляецца адказам на запытаньне юных чытачоў. У далейшых нумарох мы пастараемся ўсебакова абхапіць пастаўленае пытаньне аб „Маладняку“.

„Маладняк“—гэта Ўсебеларускае Аб‘яднаньне маладых поэтаў і пісьменьнікаў.

Маладнякоўцы назвалі сябе маладымі поэтамі і пісьменьнікамі не таму, што яны ў большасьці сваёй толькі што з піонэраў вышлі, як кажуць, але таму, што пішуць яны аб новым, маладым жыцьці. Новае жыцьцё пачало будавацца ў нас толькі з кастрычніка 1917 году. Маладнякоўцы ў сваіх творах і адбіваюць наша сягоняшняе жыцьцё, яны клічуць рабочых і сялян да гэтага новага жыцьця. Маладнякоўцы ў большасьці самі—барацьбіты рэволюцыі. Аб рэволюцыі ў маладнякоўцаў напісана шмат твораў. Маладнякоўцы ў сваіх творах клічуць рабочых і сялян—як іх сыны—змагацца за поўнае вызваленьне ўсіх прыгнечаных, за сусьветны кастрычнік.

„Маладняк“ у сваіх песьнях апявае горад і вёску. Але не стары горад і вёску апявае „Маладняк“ у сваіх вершах. „Маладняк“ пяе аб сяго-



На заводзе.

На адну карову болей
Трэба сёлета заняць,
Каб часопісь мог у полі
Цэла лецейка чытаць.

нешнім горадзе і вёсцы, якія вызвалены з-пад улады паноў і цара, і якія ідуць разам об'яднаным шляхам да стварэньня новага, маладога жыцьця.

„Маладняк“ помніць і аб сваіх заходніх братох, што прымушаны часова стагнаць яшчэ пад бізуном польскага пана. Вершы маладнякоўцаў аб заходняй Беларусі поўны юнацкай бурлівасьці да змаганьня, поўны веры, што:

Мы узарвём гэту фабрыку сьмерці
На палёх беларускай глушы.
Бедната, сонцу новаму верце!
Беларусь—не за-ду-шыць!

*(Александровіч).*

Няма таго кутка сягоняшняга жыцьця, у якімбы маладнякоўцы ня прымалі удзелу.

Маладнякоўцы ня толькі пішуць свае творы, у якіх перадаюць настроі, думкі і жаданьні рабочых і сялян, яны практычна самі прымаюць удзел у адбудаваньні новага жыцьця.

Маладнякоўцы—амаль усе комсамольцы.

„Маладняк“ організаваўся ў канцы 1923 г. За гэты час ён з 7 чалавек вырас да 200 чал. Ва ўсіх акруговых гарадох маюцца філіі (часткі цэлага аб'яднаньня па тэрыторыях) „Маладняка“. Шмат сяброў „Маладняка“ жывуць у вёсках. „Маладняк“ організуе ўсю лепшую і здольную частку моладзі, якая йдзе пад сьцягам комсамолу для адбудаваньня новай культуры Савецкай Беларусі, культуры рабочых і сялян. Шмат працы трэба палажыць, каб пабудаваць культуру працоўных Беларусі. Але Ленінскі „Маладняк“ гэту задачу выканае.

З кожным днём растуць сілы „Маладняка“, прыбывае ўсё больш і больш сьвежых маладых сіл вёскі й гораду, каб разам працаваць на карысьць тых, хто іх пасылае ў „Маладняк“.

Мы, піонэры, таксама пашлём у „Маладняк“ не аднаго свайго таварыша. „Маладняк“ ужо распачынае працу і сярод нас, піонэраў. Усе піонэры, якія выказваюць здольнасьці ў пісаньні твораў, увойдуць у „Маладняк“. Будзем разам вучыцца і працаваць. Будзем тварыць новую беларускую літаратуру і культуру. Сіла моладзі вялікая—

хто-ж адвагі знойдзе, сьмеласьці
з сілай моладзі памерацца!!—

так кажа аб сіле моладзі наш старэйшы маладняковец М. Чарот.

На гэтым мы цяпер і спынімся ў разглядзе „Маладняка“. Бо нельга ў адным кароценькім артыкульчыку абхапіць усю тую вялікую працу, якую вёў і вядзе „Маладняк“ у справе пабудовы новай беларускай культуры. У далейшых нумарох мы часта будзем гутарыць аб „Маладняку“, бо гэта наша організацыя, комсамольская організацыя.

Але, каб стала весьці гутаркі аб творчасьці маладнякоўцаў, нам трэба бліжэй пазнаёміцца з іх творчасьцю.

Творы маладнякоўцаў параскіданы па ўсіх часопісях і газэтах, якія выходзяць на Беларусі.

Маладняцкія зборнікі, якія ўжо вышлі з друку, наступныя:

1. Трысьцё—зборнік вершаў Ул. Дубоўкі.
2. Комсамольская нота—вершы А. Вольнага і А. Александровіча.
3. Беларусь бунтарская—вершы А. Дудара.
4. Па беларускім друку—вершы А. Александровіча.
5. Два—аповесьць А. Вольнага.
6. У віры жыцьця—апавяданьні М. Зарэцкага.
7. Босыя на вогнішчы—поэма М. Чарота.
8. Веснаход—апавяданані М. Чарота.
9. Завіруха—вершы М. Чарота.
10. Барвенак—вершы А. Гурло.

**А. Чурылавец.**



# У ВЕРБНУЮ НЯДЗЕЛЮ

— Слухай, брат, Сідар, што гэта вытвараюць гэтыя кансамольцы і пінаеры?—кажуць, вялікадня няма...—пытаецца стары дзядзька Цімох у царкоўнага старасты Ахрэма.

— Што?..—зьдзіўлена выкінуў Ахрэм і паморшчыў твар так, як смаржок.

— Да няма, кажуць, кажу табе!

— Вялікадня няма?!. Ого-го-о-о!—Глупства ня вер!! Чаго-ж людзі, бачыш, сабраліся ля царквы?

Цімох з Ахрэмам завязалі спрэчкі.

— Дык пайдзі вунь у школку паслухай, гэта-ж не далёка,—выпраўляў Цімох свайго сябра Ахрэма.

— І слухаць не хачу.

У гэты час да іх пачало зьбірацца больш і больш людзей. А праз якія 10 хвілін, сабраліся ўсе, хто тут быў. Па зачэплянаму пытаньню адчыніліся ўжо й вялікія спрэчкі.

— Быў Хрыстос, што ён меле другі!—крычалі адны.

— А хто-ж бачыў яго калі?—чуліся другія выкрыкі.

— Чаго-ж ты прышоў, калі ня верыш і г. д. Словам, цэлы скандал паднялі каля царквы.

Поп у гэты час аддыхаў сабе, як сьлед, выпіў „маленька“, каб голас ня хрып і чакаў ужо парафіі.

Але прайшло нешта з паўгадзіны і няма нікога.—Што за чорт,—думае сабе поп,—ці іх ліха ўзяло. Да й Ахрэма няма.

— Ну добра, няхай пагуляюць, а я яшчэ...—прамовіў сам сабе поп і пацягнуўся ў каморку, дзе стаялі бутэлькі „сьвятога прычасьця“.

А на дварэ каля царквы шумелі людзі.

— Мужчыны на што вам што, хадзем паслухаем у школку на даклад і там нам скажуць—вынес нехта прапанову.

— Хадзем, мужчыны, хадзем, там-жа з Менску некі прыехаў, ён раскажа нам, пасьпеем яшчэ ў царкву.

— Вярба-ж нясьвенчана, мужчыны!—крычаў Ахрэм.

— Кінь, хадзем з намі, паслухаем, прыдзем,—угаварвалі некаторыя Ахрэма.

Грамада рынулася з месца і стрымаць яе ужо нельга было.

— Бацюшка, бацюшка, а бацюшкі мае, пашлі!.. нема роў Архэм убегшы ў царкву.

— Куды, хто?!.

— Людзі пашлі... У школку, там дзе консамолы і піанэры...

— Яны пашлі?!—бацюшка загарэўся агнём, хоць і да гэтага гарэў ад віна хмельнага.

— Пакалачу, не пасьвянчу, гэта-ж рэволюцыя... госпадзі!!!—поп забегаў, зашастаў па царкве.

— Дзе яны, дзе?

— Пашлі, бацюшка...

— Дагнаць!.. і поп кінуўся на ўздагон, зачапіўся за парог і брыкнуў на каменьні. Ахрэм падскочыў, падняў папа. З носа папа пабегла кроў, разьбіў.

— Не дарую.!—Крычаў поп і з пабітым носам бег далей у сваёй рызе.

А у школьцы ішоў даклад на тэму „Адкуль зьявіўся вялікдзень“.

Сюды прышлі ўсе комсамольцы і піонэры, і большая частка моладзі. Грамада з царквы таксама ўлілася ў салю школы.

— Пачнеце с пачатку!—унёс нехта прапанову з тых, што прышлі.

Дакладчык згадзіўся, уведаў у чым справа і пачаў спачатку.

Звонка ліліся словы дакладчыка, сам ён гарэў нейкай нецярплівасьцю і радасьцю. Усе слухалі дакладчыка.

— Гаспадзі, грэшніца ты мая парафія! Нячысты іскусіл есі... Ва імя яйца і сьвятога...

Усе зьвярнулі увагу, аглянуліся і рогат грымучы раскаціўся:

— Ха-ха-ха, чорт...

Поп супыніўся, вытрашчыў вочы. Твар яго быў увесь у крыві, размурзаў рукамі.

— Таварыш Калупаевіч (так звалі папа па прозвішчу), прашу не перашкаджаць і сесьці спакойна, у нас сход,—заявіў старшыня сходу комсамолец.

— Вывесьці яго,—крыкнуў нехта,—каб не перашкаджаў. Прапанову падхапіў увесь сход.

Падскочыла некалькі хлапцоў і асьцярожна вывелі папа.

Сход зацягнуўся да самага вечару.

**Алесь з Галіцы.**

# ГАЗЭТА „БЕЛАРУ

## Дзень Парыскае Комуны.

Было гэта 54 гады таму назад 18 сакавіка 1871 году. Пролетарыят Парыжу—галоўнага гораду Францыі—скінуў з сябе ўладу буржуазіі і ўтварыў сваю пролетарскую ўладу—„Парыскую Комуну“.

Пролетарыят тады ня быў у поўнай меры організаваны, ня меў свае адзінае клясавай партыі. Пролетарыят давяраў кіраўніцтва сваімі органамі ўлады людзям з рознымі думкамі і ня зьвязаўся з сялянствам.

Усё гэта аслабіла комуну.

Буржуазны урад перамог комуну.

Пачалася крывавая расправа. Нічога для гэтага не шкадавалі буржуі.

Стралялі старых жанчын, дзяцей. Кроў лілася ракой; ёй былі заліты вуліцы.

30 тысяч комунараў загінулі ад рукі буржуазіі на вуліцах Парыжа ў 1871 годзе.

Але Парыскі пролетарыят даў нам і сабе урокі рэволюцыйнай барацьбы.

Не забудземся аб іх!

---

## Загінулі правадыры рэволюцыйнага закаўказья— Мясьнікоў, Атарбэкаў і Магілеўскі.

22 сакавіка аб 11 гадз. 20 мін. самалёт „Юнкерс“, які ляцеў над гор. Тыфлісам, загарэўся і ў ім загінулі — Мясьнікоў, Атарбэкаў, Магілеўскі. Апрача іх загінуў лётчык Штыль і яго памоцнік Загарадзе.

Калі самалёт падаў на зямлю ў ім узарваліся бэнзынавыя катлы. Самалёт разбіўся ўшчэнт. т. т. Мясьнікоў і Загарадзе забіліся і згарэлі ад бэнзыну, які выбухнуў з катлоў.

Т. Мясьнікоў у сучасны момант зьяўляўся сябрам прэзыдыуму Ц. В. К. СССР, сябрам Рэволюцыйнага Савету СССР і сэкратаром Закаўкаскага краявога комітэту Расійскай Комуністычнай партыі.

У 1919 годзе т. Мясьнікоў—першы старшыня Ц. В. К‘а Літвы і Беларусі, быў першым рэдактарам газэты „Звезды“.

Т. Мясьнікоў прымаў самы блізкі удзел у заснаваньні Комуністычнай партыі Беларусі.

Т. Атарбэкаў — намесьнік Народнага Комісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, Закаўкаскай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі і упаўнаважаны Народнага Комісара Пошты СССР.



Мяснікоў.

## Сун-Ят-Сэн.

12 сакавіка а 9 гадз. 30 мін. раніцы памёр Сун-Ят-Сэн рэволюцыянэр і змаганец беднага кітайскага народу.

На працягу ўсяго свайго жыцьця Сун-Ят-Сэн вёў самую ўпартую барацьбу з ворагамі працоўнай клясы Кітаю. Сун-Ят-Сэн утварыў нацыянальную народна-рэволюцыйную партыю Гоміндан. Перад сваёю сьмерцю Сун-Ят-Сэн напісаў партыі Гоміндан ліст, у якім гаварыцца: „Я ўсё сваё жыцьцё ахвяраваў справе нацыянальнага-рэволюцыйнага руху, які меў мэтай забясьпечаньне роўнапраўя і волі для Кітаю. Я ўпэўнены, што для того, каб дасягнуць гэтае мэты, вы павінны ўзьняць народныя гушчы і злучыцца з усімі народамі, якія лічацца з вамі, як роўнымі. З прычыны таго, што рэволюцыя яшчэ не закончана, вы, таварышы, павінны працягваць барацьбу да таго часу, пакуль не пераможаце... Склікаць народны збор і высунуць дамаганьне аб скасаваньні няроўнапраўных дагавораў. Я даручаю партыі зрабіць усё магчымае для таго, каб гэтыя мэты былі дасягнуты ў самым хуткім часе“. Вось што пісаў правадыр працоўных Кітаю перад сваёю сьмерцю.

# СКАГА ПІОНЭРА“

### Сьмерць т. Нарымана Нарыманава.

**Урадавае паведамленьне.**

19 сакавіка а 8 гадз. 30 мін. вечару ад разрыва сэрца памёр старшыня ЦВК'а саюзу ССР і ЦВК'а Закаўкаскай соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі т. Нарыман-Нарыманаў.

Т. Нарыманаў зьяўляўся адным з выдатнейшых правадыроў працоўных Усходу. Усё сваё жыцьцё ён аддаў за барацьбу працоўных мас Закаўказьзя. т. Нарыманаў па нацыянальнасьці—тюрк. Ён радзіўся ў Тыфлісе ў 1870 годзе.

У лютым месяцы гэтага году Савецкі Саюз сьвяткаваў 30-цёхгодзе яго політычнай і літаратурнай дзейнасьці.

---

### У Лодзі (Польшчы) зарыштована 140 комсамольцаў.

Па вестках польскага тэлеграфнага агэнцтва паліцыя заарыштавала ў будынку профэсыянальнага саюзу краўцоў у Лодзі 140 комсамольцаў, якія сабраліся на сход.

### Тэлеграфныя зносіны між СССР і Польшчай.

Распачаліся простыя тэлеграфныя зносіны між Польшчай і СССР.

### Белы тэрор у Польшчы.

У Радаме паліцыя зрабіла масавыя вобыскі і заарыштавала 60 чалавек па абвінавачваньню ў прыналежнасьці да комуністычнай партыі.

* * *

У Варшаве закончыўся процэс абвінавачаных за удзел у зьезьдзе польскага комсамолу ў 1923 годзе.

З 16-ці абвінавачаных двое прыгавораны да 4-х гадоў катаржнай турмы, 6—да 3-х гадоў, 6—да 2 гадоў і два да 1½ году.

* * *

Комуністычная фракцыя польскага сойму апублікавала паведамленьне, што ў Валынскім ваяводзтве (вокругу) паліцыяй заарыштована больш за 1.000 чалавек.

Ва Ўладзіміры-Валынскім заарыштована больш за 450 чалавек. У Луцку—больш за 100 чалавек. У Дубенскім павету—каля 150 чалавек. У Палескім ваяводзтве заарыштавана больш 2.000 чалавек.

Усіх заарыштованых пры допросах польская паліцыя бязьлітасна катуе і зьдзекуецца над імі.

---

### Пашыранае пасяджэньне Комінтэрну моладзі.

8-га красавіка ў Маскве адчынілася 5-е пашыранае пасяджэньне Выканаўчага Комітэту Комінтэрну моладзі.

Прыехалі дэлегаты ад 15-цёх старонак—32 з рашаючым голасам і 21 з дарадчым. Апрача таго, прысутнічаюць таксама прадстаўнікі Выканаўчага Комітэту Комінтэрну т. т. Зіноўеў, Бухарын, Бела-Кун, Нэйман і інш., тры прадстаўнікі Спортінтэрну і адзін прадстаўнік сялянскага Інтэрнацыяналу.

---

*Масква.* У Італіі 22 сакавіка пасьля працяжнай хваробы памёр адзін з старэйшых польскіх комуністых Юліян Мархлеўскі. Рэволюцыйную працу Мархлеўскі пачаў у дзевяностых гадох. У апошні час т. Мархлеўскі быў рэктарам комуністычнага унівэрсытэту народаў Захаду і старшынёю Міжнароднай Організацыі Дапамогі Барацьбітом Рэволюцыі—МОПР'у.

---

У раёне Рыо-дэ-Жанэйро (сталіца Бразыліі) здарыўся выбух вайсковых складаў. Перш за ўсё загарэліся вялікія катлы з нафтаю, пасьля чаго агонь перакінуўся на склады, у якіх знаходзілася 3000 скрынак дынаміту.

Забіта звыш 300 чалавек, паранена—600.

### 15 год працы на ніве беларускай літаратуры.

22 сакавіка ў Менску адбылося сьвяткаваньне 15-гадовай працы беларускага поэты Алеся Гурло.

Тов. А. Гурло паходзіць з сялян, родам з м. Капыля, Слуцкай акругі.

Тав. А. Гурло ўлажыў багаты ўклад у беларускую літаратуру. У яго вершах заўсёды адчуваецца жыцьцёрадаснасьць, чуецца ў іх песьня працоўнага чалавека, які любіць сваю працу, верыць у свае сілы, сваёю ўласнаю рукою куе сабе новае жыцьцё, сам скінуў з сябе панскае прыгнечаньне.

Тав. А. Гурло ўваходзіць у склад усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“.

### У Ц. К. Комсамолу Беларусі

— Распрацованы матар'ялы, аб сувязі комсамольскіх ячэек з нізавой коопэрацыяй.

* * *

— Пры наркомтрудзе будзе складзена комісія па перагляду шкодных для моладзі профэсій.

### У цэн. бюро юных піонэраў.

— Распрацована пытаньне а передачы піонэраў у комсамол, кіруючыся інструкцый Цэнтральнага Комітэта РЛКСМ.

* * *

— Бюро ЦК ухваліла, інстытут пачэйсных піонэраў скараціць да мінімуму.

Акруговыя комітэты павінны пераглядзець склад пачэсных піонэраў.

---

**Піонэры! рэдакцыя чакае ад вас допісаў аб вясновай працы вашых атрадаў. Пішэце, абменьвайцеся вопытам аб працы вашай на своіх агародах, на Ленінскіх дзесяцінах, як ідзе падрыхтоўка да лягераў і інш. Рэдакцыя чакае.**

# ЧЫРВОНЫЯ ЗОРКІ.

## Юзік і Ягорка.

(Апавяданьне).

За горадам на ўзгорку, абведзеная старымі платамі агародаў, стаіць вёска Агароднікі. Каля яе, пад горкаю жаўцеюць ямы глінішча, дзе людзі бяруць гліну. У глінішчах многа й жоўтага пяску, у якім кожны дзень перасыпаюцца й купаюцца вясковыя дзеці.

А то ў іх яшчэ ёсьць і другая забава. За палатамі расьце многа лопуху й чартапалоху, а на гэтым зельлі вельмі многа, як кажуць, ваўчкоў, якія вельмі добра чапляюцца за ўсё й за кожнага.

Вось тут і капошацца дзеці рвуць ваўчкі ды кідаюць адзін на аднаго, ці на якога-небудзь дзядзьку, які часам пройдзе каля платоў за гумнамі.

Ато часам яшчэ пазавуць дзеці якога нібудзь спакойнага касматага сабаку з вуліцы, ды ўвапхнуць яго ў лопух. Дык той нябарак як выскачыць адтуль, дык хоць ты яго тапіць вядзі—сам да сабе не падобен: увесь як чорт аблеплено ваўчкамі, уся шэрсьць як у гузох—і ў галаве, і на сьпіне, і ў хвасьце. Кінецца ён, перапалоханы, з усіх чатырох уцякаць, хвост падтуліўшы, а дзецям радасьць. Рагочуць яны—аж агароды за гумнамі зьвіняць.

* * *

Разам з усімі дзецьмі заўсёды гуляе й Юзік з Аленкаю—брат і сястра. Юзік трохі большы за Аленку—яму ўжо восьмы год, а Аленцы ўсяго пяць. Часам, перасыпаючыся ў пяску, Аленка пакоціцца ды спалохаўшыся таго што ўпала, пачне плакаць,а Юзік тады яе паднімае ды ўгаварвае, каб ня плакала. Іншыя хлапчукі памагаюць Юзіку, а іншыя сьмяюцца з яго. Усяк бывае..

Жывуць Юзік з Аленкаю зусім у старой хаце. А тут-жа радам, у другой хаце, жыве Юзікаў таварыш па гульні й сусед—Ягорка. Ягорка старэйшы за Юзіка на два гады—яму ўжо дзесяты год.

Ягорка яшчэ таксама разам з Юзікам купаецца ў пяску, ды ўцягае сабаку ў лопух, але ўсё-ж Ягорка ўжо часам уздумае паказаць што ён ужо сталы чалавек.

Каля Ягоркавае хаты ляжыць куча дзерава, дык вось Ягорка часам раніцаю, важна ўзяўшыўся ў бокі, выйдзе з хаты, сядзе на дзерава, ды як стары ўсё роўна, плюне праз зубы на зямлю й засьпявае важна тую песьню, якую часта сьпяваюць старыя.

Ягорка яшчэ ня можа выгаварыць акуратна гуку „Ч“ і ў яго песьня выходзіць так:

Ой у полі-полі,  
Карцомка стая-а-а-ла  
Трай рай ра та-тай  
Карцомка стаяла!..

А Юзік стаіць збоку, ды ад зайздрасьці падражніваецца:

—Думеш вельмі ўжо на старога падобен! Яйправа не. Смаркач малы!..

—Маўчы Юзік-гузік—адказвае Ягорка й заварочваецца ў другі бок. Бо хіба-ж патрэбна сталаму чалавеку гаварыць з блазнатою!?.

* * *

Пасьля зімы йшла вясна. На вуліцы падсыхала гразь, па гразі спацыравалі сьвіньні, ды куры, а пеўні гарланілі на ўсю вуліцу, палохаючы верабёў. А можа вераб'і гэтага й не палохаліся, але так адляталі, з далікатнасьці.

Старыя ўжо рыхтаваліся ехаць у поле—Юзікаў бацька і Ягоркаў майстравалі драбіны ў двары, аглядалі плугі, ды кожны дзень давалі сваім конікам па гарцу аўса з сечкаю, каб моцныя сталі к рабоце.

Малым-жа была адна любата на вуліцы—весальня-а-я-яй!..

Тут табе й лужына—можна пабоўтацца, тут табе й з гусаком падражніцца; толькі бяда што няма яшчэ лопуху—няма куды сабаку увапхнуць.

Сонца сьвеціць—усёроўна як бы сьмяецца зямлі. Загэтым і весна так.

І вось у такі дзень прыехалі з гораду піонэры. Вясёлыя хлапчукі з чырвонымі гальштукамі. Яны зразу напоўнілі вуліцу песьнямі, сьмехам. Цэлы атрад іх. А з імі павадыр, комсамолец.

Зьбіліся ўсе вясковые дзеці, а Ягорка нават забыўся што ён сталы чалавек, ды падкасаўшыся, ва весь дух драпануў з дзерава к канцу вуліцы, дзе ўсе пачалі зьбірацца. Напрыходзілі й старыя.

Колькі было гаворак, колькі пытаньняў! І нарэшце ў вёсцы организаваўся піонэрскі атрад і Ягорка стаў настаяшчым піонэрам.

Ужо ён зусім важна пазірае вакол сябе і сьпявае іншую ўжо песьню:

стала восем мне гадоў—
Піонэрам быць гатоў...

* * *

Юзік яшчэ не папаў у піонэры, бо малым яшчэ яго зусім прызналі Але затое ён зусім блізкім таварышам стаў Ягоркавым, такім, якім ніколі ня быў.

Калі Ягорка, залажыўшы рукі ў кішэні, выйдзе на сонца каля хаты пастаяць ды падумаць аб сваіх піонэрскіх справах, Юзік заўсёды падыходзіць к яму і пачынаюць яны гаварыць. Ягорка растлумачвае Юзіку, як гэта трэба маршыраваць, бо сам ён ужо маршыруе ня горш чырвонаармейца.

А тымчасам Юзік слухае й яму весела.

— А калі мне ўжо можна будзе запісацца ў піонэры—пытае ён у Ягоркі.

— А колькі табе год?—пытае Ягорка.

— Увосень скончыцца дзесяць.

— Ну дык на лета ўвосень ужо ты будзеш у піонэрах—гаварыў Ягорка—будзем тады разам ў атрадзе.

І Юзік зусім рад.

— Вось толькі ці дазволіць тата,—гаворыць задумлёны Юзік.

— А-я-яй, вельмі ўжо татка гэтакі знаток—важна, як стары чалавек—адказвае Ягорка і пачакаўшы дабаўляе: пусьціць я табе кажу.

І тады Юзік бяжыць падскакваючы дамоў. Дома ён гуляючы з Аленкаю, сьпявае песьню:

„Зюра-зюра-зюравей!..



Юзік і Ягорка каля рэчкі.

А як піонэрскі атрад ідзе па вуліцы, Юзік выбягае з хаты, бяжыць усьлед і думае:

— Каб хаця скарэй тая восень, калі й я стану піонэрам.

Кузьма Чорны.

## РЫБАК.

Сонейка паволі
за ляском заснула
і к сабе дзянёчак
ручкай прыгарнула.
Ціхі вечар слаўна
на зямлі гуляе;
яму ветрык спраўна
каласкі схіляе.
Так прыходзе поўнач,
цішыня пануе,
а ля рэчкі стромкай
рыбалоў вандруе.
Ціха ля кусточку
хлопчык невялічкі
прысеў і дастаўшы
з кішэня сярнічкі,
разлажыў вагоньчык,
прылёг задумённа.
Слухаў ён як хвалі
гаварылі пенай...
Чуць ўзьнялося сонца,
блеснула расінка
па-над рэчкой стромкай
мігаціць вудзінка...
На кручок гароху
сваёй вудкі гібкай
хлопчык наш начэпіць
і шукае рыбку..
Ловіць ён на мушкі
казьлячкі, асоткі,
ловіць ён ракушкі
галаўні ды плоткі.
О то-ж радасьць хлопца
заліло ўсё сэрца,
бо ў яго ўжо рыбы
поўнае вядзерца...
На плячо ўсе вуды
ды дамоў салдатам.
О-то-ж будзе рада
родненькая матка.

Піонэрка **Аўгіня Красавік.**

# Нашы гульні.

### Бойка за чырвоны сьцяг.

Удзельнічаюць два зьвеньні.

Адно зьвяно абараняе сьцяг, які знаходзіцца на невялікай горцы, а другое зьвяно, быццам ворагі (белыя) атакуе позыцыю, жадаючы заўладаць сьцягам. Бароцца й штурхацца ўпоўне дазваляецца й таму і другому боку. У выпадку, калі якога небудзь піонэра паваляць на зямлю, то ён лічыцца забітым. Кіраўніку неабходна сачыць за тым, каб гульня не зацягвалася й не пераходзіла ў азарт, бо, у гэтым выпадку, яна можа кончыцца пабойкай.

**Месца для гульні.** Лягер, плошча з горкай.

**Падсобкі для гульні.** Сьцяг, або прадмет, які яго замяняе

### Зьнішчым фашыстаў.

У гульні прымае удзел увесь атрад.

Атрад становіцца ў кола. З атраду выбіраюцца 5—7 асоб фашыстаў.

Адзін з фашыстаў стаіць у сярэдзіне кола; у таго што стаіць у сярэдзіне кола маецца мячык (малы футбольны), якім ён стараецца папасьці ў фашыста. Папасьці трэба ня меней 10 разоў, пасьля чаго фашыст лічыцца забітым, і на яго месца ў кола становіцца наступны і г. д.

# Навука і тэхніка.

### Самая большая гармата ва ўсім сьвеце.

Ня гледзячы на тое, што вайна 1914-1918 гадоў яскрава паказала сусьветнай буржуазіі ўсю бязглудзіцу гэтай вайны, трата грошай на ваенную тэхніку цягнецца буржуазіяй і цяпер.

Усе буржуазныя краіны ў тры разы пявялічылі сродкі на ваенную тэхніку цяпер параўнаўча з даваенымі затратамі.

Але ў гэтай справе Амэрыка ідзе ўперадзе ўсіх, як павялічэньнем сродкаў, так і тэхнікі. Яна нядаўна зрабіла самую большую ва ўсім сьвеце гармату, якая кідае бомбу вагою ў 56-ць пудоў.

Праўда, у Нямеччыне была вялікая гармата і раней, якою немцы ў часе вайны бамбандыравалі Парыж, але ўсе-ж такі яна далёка ўступае цяперашняй Амэрыканскай. Нямецкая гармата трошку меншая (яе меншы калібр на 14 цаляй) і стаіць на адным месцы, яе нельга было перавозіць, Амэрыканскую-ж можна перавозіць.

### Транспорт.

У часе вайны вялікую ролю адыгрываюць чыгункі, аўтамабілі і інш. Ніводная дзяржава не шкадуе сродкаў дзеля пабудовы добрых чыгунак і аўтамабіляў.

Мала таго, што яны ў часе вайны адыгрываюць вялікую ролю, яны і ў часе мірнага будаўніцтва прыносяць вялікую карысьць дзяржаве.

У апошні час у Нямеччыне ўжываецца дзеля перавозкі пасажыраў новы аўтабус на 6-ці колах. (Аўтобусам завецца той самы аўтамабіль на 4-х колах, але толькі яго прыстасавалі спэцыяльна дзеля перавозкі пасажыраў).

Аўтобус, на 6-ці колах шмат большы за звычайны аўтамабіль, колы яго размяркаваны гэтак: два ўперадзе, а чатыры з заду.

Новы аўтобус (згодна паведамленьню нямецкіх часопісяй) патрабуе $^1/_4$ часткі той энэргіі, якая патрэбна была для аўтамабілі. Дзякуючы чаму і язда на гэткім аўтобусе менш каштоўная, чым на звычайных аўтобусах.



У пабудове цягнікоў Амэрыка дасягнула самых вялікіх вынікаў; у апошні час асаблівую увагу зьвяртае на сябе пэч цягніка № 8000. Гэта печ мае страшэнную сілу; сіла яе дасягае 3000 конскіх сіл.

Цягне такая печ цяжару каля 12000 тон. (тон=61 пуду)

П. Г.



# Бібліотэка піонэра.

Рэдакцыя атрымала за апошні час некалькі запытаньняў ад розных установаў і організацый аб тым, каб апавясьціць іх праз часопісь, дзе можна дастаць піонэрскую бібліотэку, якая ўваходзіць у яе літаратура і кошт гэтай бібліотэкі.

Кожная зацікаўленая організацыя, шэфы змогуць выбраць з прапануемай намі бібліотэкі, што для іх больш патрэбна і неабходна.

Усе гэтыя кніжкі можна купіць у Цэнтральным Дзіцячым коопэратыве па адрасу:
*Менск, пляц Волі, Цэнтр. Дзіцячы коопэратыў.*

### I. Літаратура для піонэраў.
(Часопісі і белетрыстыка).

1. Беларускі піонэр(штомесяч. часопісь). 30 к.
2. Пионер (детский журнал) . . . . . 30 к.
3. Барабан (детский журнал) . . . . . 30 к.
4. **Лапотин**—бродяга электрон . 20 к.
5. **Орловец**—Черные люди . . . 25 к.
6. „ —Дорогой подарок. . 25 к.
7. „ —Сладкий Грыцко. . 25 к.
8. **Лапотин**—Победа над сушей . 20 к.
9. Как Петрунька ездил к Ильичу. 25 к.
10. Красный билет . . . . . . 20 к.

(4–10: Белетрыстыка.)

11. **Михайлов**—Апчхи . . . . . . . . 25 к.
12. На улице . . . . . . . . . . . 12 к.
13. Ванька огнев и его собака партизан . 50 к.
14. **Новиков**—Прыбой (моряки) . . . . 30 к.
15. „ —Прибой (путь на север). . 25 к.
16. Сын большевика. . . . . . . . . 8 к.
17. За власть Советов . . . . . . . . 10 к.
18. Аэроплан—звено . . . . . . . . 20 к.

### II. Навуковы аддзел.

1. Марс старший брат земли . . . . . 10 к.
2. Пионер электрофикации . . . . . . 35 к.
3. Марс и жизнь на нём . . . . . . . 40 к.
4. Мой ученый скворец . . . . . . . 20 к.
5. Юные натуралисты за работой . . . 15 к.

### III. Тэатр.

1. Против красного галстука . . . . . 35 к.
2. Правь на север . . . . . . . . . 30 к.
3. Тень Карла Либкнехта. . . . . . . 8 к.

### IV. Піонэрскія песьні

1. Песьни юных пионеров (с нотами) . . 63 к.
2. Пионерская (с нотами). . . . . . . 10 к.
3. Ленинский марш пионеров . . . . . 10 к.

Апрача гэтага нядаўна вышаў з друку статут піонэраў на беларускай мове. Каштуе ўсяго 3 кап.

Выданьне: **НКА БССР** Адказны рэдактар: **Рэдколегія.**

# Наша перапіска.

**Малевічу** (Капыль). „Суд над вучням" па тэхнічных умовах у гэты нумар не даём. Зьмесьцім у чарговым нумары. Частку допісаў скарыстаем.

**Бяспрытульнаму**. Вершы твае пакуль што ня друкуем, слабаватыя. Пішы яшчэ. Здольнасьць у цябе прасьвечваецца. Допісы надрукуем.

**Свабоднаму**. Твой верш „На зьмену" зусім неапрацаваны. Зьмясьціць ніяк нельга. Думка, праўда, добрая. Больш апрацоўвайце свае вершы ў далейшым.

**Гурэвічу**. Спазьнілася ў гэты нумар.

**Я. Гаротнаму**. Позна.

**К. Шавелю**. Пішэце лепш аб працы свайго атраду.

**М. Фрыдбергу** (Мазыр). Матар'ялы атрымалі. Будзем друкаваць.

**Касачу**. „Першы крок" (малюнак з жыцьця вясковага хлопчыка) надрукуем. Рэдакцыя чакае ад вас больш такіх бытавых малюнкаў, зьвязаных з піонэрскім жыцьцём.

**Малкін Х**. Твой допіс застаўся для чарговага нумару. Пішы больш аб шэфскай працы.

**Гольферу**. (Бабруйск). Апавяданьне атрымалі, скарыстаем.

**Шарафановічу**. Допісы спазьніліся, бо вы пісалі іх у „Юный Строитель".

## Да ўсіх піонэраў Беларусі.

Газэта „Юный Строитель" ужо зачынілася і больш выходзіць ня будзе. Усе допісы, падпіску, запытаньні і інш. шлеце ў сваю часопісь „Беларускі Піонэр". Павялічэньне падпіскі і матар'ялу дасьць магчымасьць нам у бліжэйшым часе перавесьці часопісь „Беларускі Піонэр" на двухтыднёвае выданьне.








## Жарты, задачы і загадкі.

### Монограма.

З „В“ на ранах прыкладаюць,
З „Л“ на дзірках нашываюць,
З „Т“ так бацьку завуць,
З „Х“ там людзі жывуць.

### Задача літараў № 1

(у форме крыжу) П. Герман.



Дадзены літары:

2-а, 1-г, 1-е, 1-і, 3-л, 3-н, 2-с, з іх трэба ў клетках крыжу злажыць. 4-ы словы, якія маюць значэньне:

1-ае слоўца—назва рэволюцыянэра;
2-ое слоўца—назва расьлін;
3-яе слоўца—назва кабеты;
4-ае слоўца—назва зьвера.

### Жартоўнае пытаньне.

Хто ўладае такой сілай,
Што аднэй рукой можа
Заставіць цягнік?

### Задачка лікаў (Тодара).



Узяць ні парныя лікі (лішкі) ад 1-ага да 17-ці і расставіць у клетках квадрату так, каб зьлева направа, зьверху ўніз і з кутка ў куток можна было атрымаць 8-м адказаў па 27 кожны. Лік не павінен паўтарацца.

### Разумная.

— Мамачка, у вядро з малаком укінулася мыш!

— А ты-ж выкінула яе, дачушка?

— Не, мамачка: я піхнула ў вядро ката, каб ён злавіў яе.

### Жарт.

— Чаму ў моры вада салоная?—пытаецца настаўнік у вучня.

— Затым, што ў моры плаваюць селядцы—адказвае вучань.

### Задачка літараў № 2.

Дзядзька Міхалка.

А—О
С—К
А—А
А—А
АЛ—БО
Ю—А
Ч—Д
КО—КА
Б—Т
ЛА—РА

Дадаць патрэбныя літары, заместа рысак, каб можна было прачытаць 10-ць слоў, а з верху ўніз адзін выраз, які мае дачыненьне да піонэра.

### Адгадка задач змешчаных у другім нумары часопісі.

Задача № 1. „Ходам каня (шахматы)“.

У лэзе на аднэй назе стаіць грыб—што гэта?—Грыб.

Задача №2—Атрымаем наступныя словы:

| | |
|---|---|
| РА | НА |
| МА | ПА |

рана, мапа, рама, нара, мара, мана, пара.

Разьвязалі піонэры:
**Е. Коська і С. Бадроў.**

# Помста.

## (Інсцэніроўка ў 2-х дзеях з жыцьця Заходняй Беларусі)

АСОБЫ:

1) Маці—45 г. (удава).
2) Алеся—11 г. } дзеці
3) Еўка—5 г. } дзеці
4) Лявон—16 г. } дзеці
5) Юрка—12 г. } дзеці
6) Данілка—8 г. } дзеці
7) Пан—25 г.
8) Лёкай—23 г.
9) Тарас—25 г. } паляўнічыя
10) Пятрук—23 г. } паляўнічыя
11) Аляксей—22 г. } паляўнічыя
12) Апанас—17 г. (таварыш Лявона)
13) Мікіта—16 г.

ДЗЕЯ I

Бедная вясковая хата.

Зьява I.

ЮРКА і ДАНІЛКА.

Юрка (*робіць з палачкі ножык*).

Данілка. Юрка, гэты ножык мне аддасі!

Юрка. Пачакай, дай-жа зрабіць.

Данілка. Дык хутчэй рабі, а то Алеся ўжо нейдзе бульбы накапала—хутка прынясе.

Юрка. Няхай нясе...

Данілка. А чым я абіраць буду?

Юрка. Вось зараз... Але-ж, які лоўкі ўдаўся!

Данілка. Дай, дай, дай!

Юрка. Ну, на. Што з табою зробіш?!

Данілка (*узяў ды глядзіць з радасьцю*). Ой, усёроўна, як сьлізорык! Пабягу пакажу Алесі (*хоча бегчы*).

Зьява II.

Алеся і Еўка (*нясуць кошык бульбы й спатыкаюцца ў дзьверах з Данілкам*).

Данілка. Паглядзеце, які ў мяне ножык.

Еўка. Ого! Хто табе зрабіў?

Данілка. Юрка.

Еўка. Малайцы! Будзеш хутка ім бульбу скрэбці.

Данілка. Ужо буду.

Еўка. Пачакай! А ты, Юрка, ідзі насячы дрэвак.

Юрка. Я—ураз: пакуль вы наскрабеце, дык і насяку (*пашоў*).

(*Алеся і Юрка скрабуць*).

Еўка. Абмыю—тады будзеце скрэбці. Пачакайце! (*налівае ў цабэрчак вады, сыпле ў яго бульбу, круціць кійком, потым ваду сцэджвае*).

А дзе той нож, што хлеб кроіц?

Алеся. Вось на лаўцы (*бярэ й падае*). Мы сёньня рана зварым вячэру, ды будзем чакаць мамку.

Зьява III

(*Уваходзіць сагнуўшыся маці*).

Маці. Ой, дзетачкі, ой!..

Усе. Мамачка, чаго ты?

Маці (*прыпіраецца да лавы*). Ой цяжка! Ледзь дайшла да дому.

Усе. (*кідаюцца да маткі*) Кажы, мамачка, што з табою?

Маці. Загубіў мяне пан. Ой, цяжка...

Лявон. Аб усім кажы, мамка!..

Маці. Хоць і цяжка казаць, дзеткі, але слухайце... каб вы ведалі ўсе тыя зьдзекі, якія паны над намі робяць! Ой, не магу... Мне сёньня нездаровіцца цэлы дзень... За гэтым я не магла так хутка жаць, як пану хацелася...

Цяжка мне стала, засталася я трошкі ад усіх па постаці. А ў сярэдзіне, што хвіліну, усё горш, нешта ные ўсё, ные, падпірае пад грудзі, ванітуе... Села я на сноп, палажыла серп—думаю, адпачну трошку. Аж раптам падлятае пан з бізуном у руках, ды пачаў мяне біць...

Ой, дзетачкі!.. А потым схапіў мяне, падняў, ды як бразьне вобземлю, што аж нешта адарвалася ў сярэдзіне (*кашляе*). Больш нічога ня памятую. Ой, баліць, ой!.. (*кашляе кроў'ю*). Ня выжыву, мусіць, дзетачкі, чуе маё сэрца...

І на каго я пакіну вас, сіротак гаротных? (*Маці заплакала. Дзеці таксама плачуць*).

Зьява IV

(Убягае Лявон).

Лявон. Чаго вы плачаце?

Еўка. Лявонка, пан матку да сьмерці прыбіў. Памрэ...

Усе. Мама, мамачка, міленькая, ня кідай нас, што мы будзем рабіць бяз цябе? Татка пашоў у магілу, і ты хочаш нас пакінуць... (*Маці кашляе, канае. Падымаецца суматоха. Дзеці плачуць, абступаюць памёршую матку*).

Лявон. Дык гэта наш пан—гэты крывапійца, скурадзёр, заставіў нас сіротамі!..

Праз яго татка наш лёг у магілу, праз яго і мамка загінула.

Ох!.. Вось каля цябе, мама, даю зарок, што ніколі не застаўлю бяз помсты такой крыўды!

Дык памятайце, што зарок мой—не на вецер! Калі адзін ня здолею зрабіць гэта, дык папрашу таварышоў—яны дапамогуць.

Помста, помста ўсім крывапійцам!

Заслона.

ДЗЕЯ II

Лес. Адно дрэва вылучаецца таўшчынёю. Ледзь заметна, што пачынае сьвітаць.

Зьява I.

(Лявон, Юрка, Данілка, Апанас—*таварыш іх*).

Лявон. Тут, тут, хлопцы, пан сунімаецца. Я гэта месца добра запамятаваў. Вось тая хвойка, на якую пан стрэльбу вешаў, вось вогнішча, дзе ён агонь клаў, а вось каля гэтага дрэва і лапіна, мусіць, коўдру расьцілалі.

Апанас. А што калі ён сягоньня не паедзе на паляваньне?

Лявон. Як гэта не паедзе?.. Сказаў паляўнічым, каб пабудзілі яго досьвету ды не паедзе. Аб усім гэтым мне сказала сястрычка: яна пасе панскіх гусей і добра ведае, калі пан зьбіраецца на паляваньне. Мы лепш давайце, на месцы тут, абгаворым, як яго прыкакошыць, а што паедзе, тo паедзе. Але яшчэ перш за ўсё—трэба нам паставіць варту, каб убачыць пана далёка, як будзе пад'яжджаць сюды.

Юрка. Я ўзьлезу вунь на тую хвойку, і буду глядзець у той бок, адкуль павінен пан ехаць.

Лявон. Добра кажаш. Толькі, браце, прыглядайся... А цяпер давайце гаварыць, як будзем какошыць яго.

Апанас. Мне, здаецца, якраз будзе добра так, як гаварыў ты дарогаю. Падкрадамся, украдзем стрэльбу ды—застрэлім. А можа ён спаць ляжа—тады яшчэназьдзекуемся...

Даніла. Зьвяжам вось гэтымі вяроўкамі ды ў рэчку ўкінем.

Лявон. Не, лепш мы яго спалім.

Апанас. Вось будзе кара!..

Лявон. А што-ж там?! ён нашага брата не шануе.

Данілка. Разьлічымся з табою, белая костка, за тое, што нашага татку і мамку ў магілу загнаў без пары.

Зьява II

*Убягая Юзік.*

Юзік. Хлопцы, ужо едзе!..

Лявон. Тады няма чаго часу дарма траціць, бо... Але вось што: вы, Мікіта і Юрка, сядзьце вунь за тым дубам.

Абое. Добра! *(пабеглі).*

Лявон. Ты Апанас з Данілам схавайся за тымі хвойкамі А я буду вунь за кустом. Толькі добра прыслухоўвайцеся, як пачну сьвістаць—будзьце на гатове. Пашлі! *(сцэна хвілін 2-3 пустая).*

Зьява III

Пан, Хвэська *(яго лёкай)*. Тры-чатыры паляўнічых.

(*У гушчары лесу чуваць дрогае фурманка, сунімаюць каня. Гэта едзе пан, а за ім ідуць паляўнічыя з стрэльбамі на плячох і з сабакамі*].

Пан. Ну, хутчэй! Чаго вы так цягнецеся, як тры дні ня еўшы?!.

Расьсьцялеце мне коўдру (*расьсьцілаюць*). Ня тут. Вось каля гэтае хвойкі (*паказвае пальцам*). *Расьсьцілаюць. Вешаюць на хвойку стрэльбу пана.*

А цяпер можаце йсьці за чым прыехалі. Ды толькі глядзеце—хто вернецца з пустымі рукамі, то розак, бізуна, не абмінуць... (*паляўнічыя пашлі*)

А ты, Сымон, прыедзеш па мяне тады, калі сонца паднімецца пад паўдня.

Фурман. Слухаю пана.

Пан. А ты, Хвэська, застанься са мною. Але не, ідзі назьбірай грыбоў.

Хвэська. Тут, пане, не растуць грыбы.

Пан. Мы суняліся ў лесе?..

Хвэська. У лесе.

Пан. А грыбы растуць у лесе?

Хвэська. Дык адзе-ж?

Пан. Значыцца...

Хвэська. Слухаю пана.

Пан. (*адзін*)... Малыя цяпер ночы, спаць хочацца, вочы так і сьлепяцца (*садзіцца*). Але натое-ж я і пан, каб спаць, і ні аб чым не турбавацца... Ф-у (*лажыцца і засыпае. Цішыня. Толькі чуваць сьпеў раньніх птушак. Здалёку даносіцца булькaньне рэчкі. Забрахаў сабака недзе далёка, ды сьціхнуў. Праз хвілін 2-3 з кустоў вылез Лявон. Махае рукою, сьвішча. На сьвіст вылазяць хлопцы. Яны згуртоўваюцца каля Лявона*).

Лявон. (*ціханька зьняў панскую стрэльбу, паглядзеў ці набіта. Намерваецца ёю ў пана. А хлопцы абступілі ды вяжуць паціханьку пану рукі й ногі. Пан моцна сьпіць*).

Лявон. Асьцярожна, хлопцы, каб не прачнуўся.

(*Хлопцы зьвязалі пана, а ён не прахапіўся. Апанас кратае пана за нагу*).

Пан. (*праз сон*) Лёкай, Лёкай... (*хлопцы цягнуць яго з месца*)

Дзе гэта я?...

Лявон. Маўчы! А то..., (*мерыцца страляць*) Папаўся, ясна-вяльможны пане. А памятуеш за што? Памятуеш кабеціну Агату, якую ты зьвёў у магілу,—гэта-ж мая матка. Тады я і мае браты былі малыя і не маглі зрабіць помсты, а цяпер прышоў той час.

Мікіта. А памятаеш, як ты разбурыў нашу хату?..

Юрка. А праз каго, калі не праз цябе памёр наш татка. (*Пан спужаўшыся сядзіць і няпікне*).

Лявон. Як бачыш, прыхільнікаў тваіх тут няма, літасьці табе ня будзе тут! (*да хлопцаў*)

Пара... (*навальваюцца на пана і прывязваюць вяроўку за шыю і да дрэва.*)

Пан. Людзі, ратуйце!..

Хлопцы. Маўчы!...

Апанас. Ну хлопцы, накладвайце гальля што найболей—асмалім яго як сьвіньню. Хутчэй! А то могуць вярнуцца яго паслугачы (*накладваюць на пана кучу гальля*).

Пан. Браточкі, зьлітуйцеся!...

Мікіта. Дайте анучу горла заткнуць! Чаго ён крычыць!? (*Схапіў кусок анучы і затыкае горла*).

Лявон. Не, гадзюка, няма на цябе літасьці.

Ды й якія мы табе браточкі, у цябе-ж косьці белыя, а ў нас...

Даніла. Ат—ды што з паганцам гаварыць?!!

Апанас. Праўда. Эй, падкладайце болей, каб і нам было цяплей і пану сьвятлей!

(*Юрка падпальвае паперу каля лаўжа наваленага на пана, або што небудзь іншае хутка гаручае*).

Лявон. За тваю сьмерць, даражэнькая мамка, мы ўчынілі помсту!

Я прысягу сваю выканаў! (*Хлопцы ўсе пашлі*).

(Заслона).

Колектыўны твор вучняў 6-е клясы семёхгадоўкі: Л. Матусэвіч, Л. Конан, Н. Крамінеўская, Л. Беланожна і Н. Сержнінская.

# Наша чарговая праца.

## Пераходзім у новы этап.

### Што такое этап?

Уся праца атраду праводзіцца па вызначанаму пляну. Плян—гэта шэраг намечаных заданьняў, якія патрэбна выпаўніць атраду ў вядомы час; намячэньне працы, якую атрад павінен правесьці, каб выпаўніць свае задачы.

Час, на які атрад намячае свой плян, завецца ў нас *этапам*.

Калі канчаецца адзін этап, атрад правярае, што ён зрабіў, што ня зроблена за гэты час з бліжэйшых заданьняў. Пасьля падрахунку мінулай працы, атрад можа намеціць працу на будучы час.

За час мінулага этапу атрад, зразумела, значна вырас, абмацнеў, шмат чаму навучыўся. У чарговы плян працы атрад уносіць ужо больш складаную працу, намячае важнейшыя, труднейшыя заданьні.

Зімовы этап канчаецца 18 сакавіка, днём Парыскай Комуны. Новы этап вясновы будзе цягнуцца да гадавіны Беларускай організацыі юных піонэраў—20 чэрвеня.

Пераходзячы да працы на чарговы этап, атраду трэба падвесьці падрахункі зімовай працы.

### Выстаўка.

Дзеля гэтага трэба сабраць усе матар'ялы зімовай працы, напісаць спэцыяльныя справаздачы, зрабіць дыяграмы, собраць фотографіі і г. д. Усе гэтыя матар'ялы павінны быць састаўлены па асобным галінам (сувязь з КСМ, з Арміяй, Ленінскі тыдзень, шэфства і інш.). З гэтых матар'ялаў трэба скласьці атрадную выстаўку зімовае працы.

Трэба будзе пастарацца, каб гэту выстаўку пабачылі бацькі піонэраў, комсамольцы і ўсе дзеці. Калі атрад за зіму вывучыў якія-небудзь песьні, інсцэніроўкі і г. д., трэба наладзіць вечар, дзе таксама зрабіць падрахунак дасягненьняў у гэтае галіне працы.

### Справаздачы.

На занятках зьвеньняў неабходна *выслухаць справаздачы* павадыроў зьвеньняў. Таксама выслухаць справаздачы і ўсіх піонэраў, якія прымалі актыўны удзел у той ці іншай працы. На агульным сходзе атраду трэба заслухаць *даклады* савету атраду, комісіі, рэдакцыі насьценнай газэты і павадыра атраду аб усёй працы атраду і бліжэйшых яго задачах.

Даклады павінны высьветліць *працу ўсяго атраду за зіму*, яе дадатныя бакі й недахопы, каб больш правільна намеціць сваю працу ў далейшым.

Такія-ж даклады трэба паставіць на сходах ячэйкі КСМ, КПБ, у заўкоме, (Праўленьня Саюзаў), на агульным сходзе рабочых.

### Як падагульняць вынікі.

Пры падрахунках працы ня трэба старацца замазваць свае памылкі й недахопы. Тагды ўся праца па падагульненьню вынікаў зьвядзецца ні на што. На такую справу піонэраў усе будуць глядзець з дрэннага боку, бо сапраўды бываюць у нас амаль заўсёды недахопы. На гэтых недахопах мы вучымся і будуем далейшы плян працы.

Падрахунак праведзенай працы і намячэньне пляну будучай працы—вось першая задача піонэрскага атраду пры пераходзе да наступнага этапу свайго жыцьця.

Ведаючы свае памылкі, атрад у наступным часе можа

### Выводзіць свае недахопы.

У працы нашых атрадаў маецца цэлы шэраг організацыйных недахопаў, дзякуючы чаму мы маем і нагрузку піонэраў, і дрэнную дысцыпліну і іншыя непаразуменьні. Прыступаючы да новага этапу трэба мець усё гэта на увазе і больш памылак не рабіць.

Сярод гэтых недахопаў і недалікаў асноўнымі й характэрнымі амаль што для ўсіх атрадаў зьяўляюцца:

а) няправільнае й няроўнамернае разьмеркаваньне функцый;

б) слабая організаванасьць у працы.

Для таго, каб пазбавіцца гэтых недалікаў, атраду трэба прарабіць прыблізна наступнае:

а) *разьмеркаваньне функцый.*

### Правільна разьмеркаваць абавязкі.

У нас няма правільнага *разьмеркаваньня працы* ў атрадзе і па-за атрадам паміж піонэрамі: адны нясуць аж лішне абавязкаў, а другія нічога.

Кожны піонэр павінен мець толькі адзін абавязак у атрадзе й па-за атрадам. Кожны піонэр павінен мець пэўную працу. Так трэба і разьмяркоўваць працу атраду.

Гэта прымушае атрад пры вырашэньні пытаньняў аб разьмеркаваньні абавязкаў *мець на ўвазе тое, што піонэры павінны выпаўняць актыўную працу й па-за атрадам* (школа, форпост, раённая праца, коопэратыў і г. д.), толькі каб гэтая праца ня была для піонэра зьверхнормная.

Даручаючы піонэру абавязкі, трэба мець на ўвазе прыстасаванасьць яго да даннае працы і ні ў якім разе ня прымушаць піонэраў выконваць не падхадзячую для іх працу.

Павадыр **Лёва.**

*Па тэхнічных умовах артыкул даецца ня поўнасьцю. Другая частка будзе ў чарговым нумары.*



Менск, 1-зя Дзярж. друк. „БДВ". Зак. № 2724. У ліку 4500 экз. Галоўлітбел № 8491.

М. Карапуз.

# Разгрузілі.

Амаль ва ўсіх атрадах частка піонэраў нясе на сабе ўсю працу атраду. Гэтыя піонэры адначасна нясуць па 5-6 абавязкаў, тады, калі есьць піонэры, якія ніякае працы ў атрадзе ня маюць.

(з корэспондэнцый піонэраў).




Як відаць, Міхась ня здуру
Аж вылузваецца з скуры:
Нагрузілі працы воз
На кані-бы не павёз.
Тыдні тры, як піонэр,
А пабач яго цяпер!—
Высах бедны, замарыўся,
Ад работы потам зьліўся.
І рэдактар сьценгазэты,
Павадыр зьвяна, да йшчэ там—
Не канец толькі на гэтым:
У гаспадарчай ён камісьсі
Старшынёю (ня дзівіся),
Ды па шэфскай яшчэ часьці,
У школе—ну нязьлічыш масьцяў
Міхасёвае работы.
Не дарэмна-ж зьліўся потам.







Бегаў бедны наш Міхась
Толькі пырскалася гразь.
І туды й сюды бяжыць;
Сьпешна трэба аж дрыжыць.
Не прайшло яшчэ й паўгода,
Як адпала ўся ахвота.
І Міхась чуць ногі цягне—
Гэта-ж, брат, ня добрым пахне...
Стаў Міхась атрад прасіць:
—Нельга болей гэтак жыць...
Трэба працу разлажыць
На ўсіх чыста піонэраў;
Закапаўся я ў паперах.
Пасьля шчырае прамовы,
Скаргаў, прозьбы Міхасёвай,
Атрад вынес пастанову:
Частку папак і паперы
Даць трэ' вольным піонэрам.
А Міхась сьмяецца рад—
Увесь за працаю атрад.